ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

WWW.RUNBEL.LT

23 траўня 2001 № 4 (40) кошт 1 літ




## Куды йдзеш, Беларусь?

У жыцьці дзяржаваў бываюць моманты, калі ўвесь іх далейшы лёс можа назаўсёды зьмяніць толькі адна падзея.

У 1216 г. у Полацкім княстве сабралася вялікае войска для паходу на Рыгу. На дапамогу княскай дружыне прыйшлі атрады ліваў, аўкштайтаў, латгалаў і эстаў — паводле падлікаў гісторыкаў, аб'яднаныя войскі славянаў і балтаў былі ў 3-4 разы мацнейшыя за сілы Ордэна мечаносцаў. Але князь Валодша раптоўна памёр і паход не адбыўся. Калі-б ня гэта, можа потым не было-б ні Лівонскага ордэну, ні гэткай бязьлітаснай для беларусаў Лівонскай вайны. Лёс усёй Цэнтральнай Эўропы склаўся-б інакш.

У сакавіку 1917 г. расейскі цар Мікалай, а за ім ягоны брат Міхаіл адракліся ад трону. Ланцуг падзеяў, якія адбыліся далей, скончыўся Кастрычніцкім пераваротам і 75-гадовым панаваньнем бальшавікоў.

Трэба ўспомніць, як паўплывала на лёс народаў былога Савецкага Саюзу выбраньне генсэкам Міхаіла Гарбачова, ці на лёс Беларусі — асоба першага прэзыдэнта гэтай рэспублікі.

Прэзыдэнцкія выбары 2001 г. вырашаць той накірунак, той шлях, па якім далей пойдзе Беларусь. Ад той асобы, якую гэтым разам беларусы зробяць сваім прэзыдэнтам, залежыць лёс краіны ня толькі на наступныя пяць-сем гадоў, але і ўсё далейшае йснаваньне Беларусі ў цэнтры Эўропы, і нават лёс усіх ейных суседзяў.

У пачатку мінулага стагодзьдзя Фінляндыя была адной з самых адсталых расейскіх губэрніяў. Адстаяўшы сваю незалежнасьць ад Масквы ў 1917-м, а потым — у 1940 г., Фінляндыя зрабілася цяпер адной з самых разьвітых краінаў сьвету. Зусім нядаўна ўся палітыка й эканоміка Польшчы, Чэхіі, Угоршчыны й шэрагу іншых краінаў зацьвярджалася ў Маскве. На іх прыкладзе мы бачым, якіх вынікаў можна дамагчыся, калі кожны твой крок не кантралюе "старэйшы брат".

Новае кіраўніцтва Расеі ўзяло г. зв. "курс на моцную дзяржаву". Але пакуль што мы ня бачым тут ніякіх посьпехаў — толькі крывавую чэчэнскую мясарэзку. "Сортирный мастер мокрых дел", які прыйшоў да ўлады ў Маскве, проста вярнуўся да мэтадаў кіраўнікоў былога СССР. Відавочна, што шлях, які ў рэшце рэшт прывёў да развалу Савецкага Саюзу, можа прывесці й да развалу Расеі.

Такім чынам, праз 15-20 гадоў сёньняшняя Расея распадзецца на пяць-шэсьць самастойных кавалкаў і, хутчэй за ўсё, далёка ня мірным шляхам. Зразумела, што калі сёньняшнія "інтэгратары" й зробяць Беларусь адным з "Расейскіх рэгіёнаў", яны адразу сутыкнуцца з супрацівам часткі грамадзтва, у тым ліку і ўзброеным. Канечне, і ў гэтым выпадку гадоў праз 20-25 Беларусь усё роўна здабудзе незалежнасьць. Але яна пры гэтым можа згубіць да палавіны цяперашняга насельніцтва й амаль усю прамысловасьць.

Мы бачым, што для Беларусі няма іншага шляху, як стаць незалежнай дзяржавай. Але калі яна гэта зробіць? Сёлета, калі яшчэ ёсць шанец будаваць Эўрапейскі дом разам зь іншымі незалежнымі краінамі, ці ўсё-ж такі на час яе прыяднаюць да ўсходняй суседкі, апошняй імпэрыі сьвету? А вось гэта ўжо залежыць ад таго, які выбар зробіць народ Беларусі.

Яўген Ліцьвін зь Вільні

## Матар'ялы да гісторыі Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні

Сёлета спаўняецца 80 гадоў ад заснаваньня легендарнай беларускай музэйнай установы ў Вільні — Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча. Гэты юбілей рэдакцыя пастанавіла адзначыць сэрыяй публікацыяў на старонках нашае газэты.

Аўтар гэтага артыкулу Лявон Луцкевіч, сын дырэктара Музэю Антона Луцкевіча, па вяртаньні з сталіноўскіх лягероў пачаў зьбіраць усе магчымыя зьвесткі пра стварэньне, існаваньне й ганебную гісторыю ліквідацыі Музэю . Ня маючы магчымасьці надрукавацца ў савецкім беларускім друку, ён аформіў іх у выглядзе чатырох самаробных альбомаў. Першы й другі альбом, амаль што аднолькавага зьместу, маюць назву «Матар'ялы да гісторыі Беларускага Музэю ймя Івана Луцкевіча ў Вільні», у іх — разнастайныя друкаваныя й рукапісныя матар'ялы, зьвязаныя з гісторыяй Музэю. У другім альбоме — здымкі й фатокопіі здымкаў датычных гісторыі Музэю, сярод якіх нямала ўнікальных, зробленых Антонам Нэкандам-Трэпкам; чацьверты альбом — фатакопія інвэнтарнай кнігі Музэю, запісы ў якой зробленыя пераважна рукой Антона Луцкевіча. А яшчэ ў сямейным архіве Лявона Луцкевіча захаваліся фотакопіі бібліятэчных карткаў, запоўненых бібліятэкарам Музэю Ўладзімірам Самойлам.

На падставе гэтых альбомаў ды некаторых іншых матар'ялаў, Выдавецтва беларусаў Літвы «Рунь» распачало падрыхтоўку да друку кнігі «Матар'ялы да гісторыі Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні».

Паведамляем таксама, што сёлета ў сакавіку месяцы ў Вільні, дзеля справы адраджэньня нашага слыннага Музэю, зарэгістраваная Грамадзкая ўстанова *«Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча»*.

**Гісторыя Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні ўяўляе сабой адну з найцікавейшых старонак беларускага адраджэньня першай паловы XX ст., і зьвязаная зь ім самым непасрэдным чынам. Гаворка йдзе пра тое, што для ажыцьцяўленьня ідэяў нацыянальнага адраджэньня беларускага (дый кожнага) народу, для заваёвы ім права на самастойнае йснаваньне заўсёды велізарнае значэньне мела й мае вывучэньне гісторыі свайго краю, гістарычнае абгрунтаваньне натуральнага імкненьня народу да самавызначэньня, што, у свой чарод, мае сваёй перадумовай існаваньне адпаведнай нацыянальнай гістарычна-навуковай установы. Якраз гэткую паважную ролю на працягу больш двух дзясяткаў гадоў, з 1921 г. па 1945 г., пасьпяхова выконваў Беларускі Музэй у Вільні.**

**Пэрыяд найбольш актыўнай дзейнасьці Музэю адносіцца да часоў польскае акупацыі Заходняй Беларусі, ці, дакладней, да часоў паміж Першай і Другой сусьветнымі войнамі. Побач са шматлікімі грамадзка-палітычнымі арганізацыямі, прэсай і школьніцтвам Музэй супрацьстаяў палянізатарскай палітыцы санацыйнай Польшчы, змагаўся за нацыянальную самабытнасьць беларусаў, абуджаў нацыянальную сьведамасьць і годнасьць, узгадоўваў патрыятычныя пачуцьці.**

**Аднак багатая калекцыя беларускай старасьвеччыны, на аснове каторай у 1921 г. і паўстаў Беларускі Музэй у Вільні, існавала значна раней да ягонай афіцыйнай рэгістрацыі. Калекцыю гэтую сабраў беларускі археоляг, адзін з пачынальнікаў адраджэньня Іван Луцкевіч. Ён пачаў зьбіраць яе яшчэ будучы вучнем 3-яе клясы гімназіі, значыць, недзе ў апошнім дзесяцігодзьдзі мінулага стагодзьдзя. Івана Луцкевіча фактычна й трэба лічыць закладчыкам музэю, хаця ягоная прыватная калекцыя сталася музэем і прыдбала выгляд навуковай установы толькі праз два гады пасьля ягонай**

*Працяг на старонцы 3*





*Так выглядала ў свой час экспазыцыя музэю. Здымкі Антона Нэканды-Трэпкі*

**15-годзьдзе**
Чарнобыльскай катастрофы было адзначанае 26 красавіка навучэнцамі й настаўнікамі школы імя Ф. Скарыны жалобнай акцыяй-напамінам у цэнтры Вільні. З дазволу мэрыі на сходах плошчы Савівальдзібес было запалена 15 сьвечак, да якіх былі прымацаваныя жывыя кветкі-нарцызы, каторыя згаралі ў полымцах сьвечак, як чалавечыя жыцьці гарэлі ў час выбуху й ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай аварыі. На парапэце былі разьвешаныя дакументальныя здымкі беларускага фотамастака Анатоля Клешчука й ліквідатара Вячаслава Гетмана, каторы па нейкім часе памёр ад прамянёвай хваробы. На стэлажах былі выстаўленыя кнігі з чарнобыльскай тэматыкай, а на стале на экране тэлевізара прысутныя маглі праглядзець відыёфільмы «Урок Чарнобыля», «Зона журбы», «Аварыя сумленьня», «Радыяцыя й акаляючае асяродзьдзе Чарнобыля». Лілася журботная музыка. Нашыя вучні раздавалі праходжым улёткі, адказвалі на пытаньні цікаўных. З сваёй акцыяй-напамінам нашыя вучні дагэтуль пасьпелі наведаць і некаторыя школы ў Вільні.

Павал Саўчанка



**Сонечнай раніцай**
мы й нашыя настаўнікі паехалі на радзіму Франьцішака Багушэвіча. Першым нашым прыстанішчам была вёска Жупраны, дзе знаходзіцца школа, што носіць імя паэта. Мы выступілі там з канцэртам, пасьля чаго наведалі школьны музэй - тут перахоўваюцца кнігі, рэчы й малюнкі, на якіх Багушэвіч паказаны ў часе хваробы. Малюнкі выканаў ягоны сын. Завіталі мы і ў касьцёл, дзе таксама знаходзіцца партрэт "бацькі беларускай паэзіі". Наведалі магілу паэта, пакінуўшы там памятку аб сабе – букет кветак. Наступнай мясьцінай, дзе мы пабывалі, былі Кушляны. Тут паэт правёў большую частку свайго жыцьця. Нас уразіў вялікі будынак, дзе пісьменьнік пісаў свае творы. Цяпер гэта музэй. Збудаваньню ўжо 105 гадоў. Ацалелі хлеў каля хаты, тут-жа растуць стогадовыя дубы. Паэт вельмі любіў хадзіць на паляваньне. Некалі ў музэі былі рогі забітага ім лася. Але цяпер яны знаходзяцца ў Ашмянскім краязнаўчым музэі.

*Вучаніца 5-ае клясы*
Каця Вdespite

**10-годзьдзе з дня заснаваньня**
адзначылі сябры Літоўскай філіі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў 26 красавіка ў адной з аўдыторыяў Віленскага пэдунівэрсытэту. На ўрачыстай акадэміі прысутнічалі кіраўнік МАБ праф. Адам Мальдзіс, вядомы беларускі літаратуразнаўца Арсень Ліс, кіраўніца Літоўскай філіі МАБ Альма Лапінскіне, аташэ культуры пры беларускай амбасадзе ў Літве Уладзімір Скараходаў, прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту Валеры Чэкман, намесьнік дырэктара Інстытуту гісторыі Літвы Рымантас Мікніс.

Валянціна Грыневіч

**Прафэсар Арнольд Міхневіч**
беларускі мовазнаўца й доктар філялягічных навукаў, наведаў 27 красавіка нашую школу. Акурат у гэты дзень для нашых выпускнікоў прагучаў апошні званок. Прафэсар распавёў вучням старэйшых клясаў пра здабыткі беларускай культуры, пра традыцыі, побыт, сьвяты й фальклёр нашага народу. Сам Арнольд Міхневіч зьяўляецца рэктарам Інстытуту праблемаў культуры, ён апублікаваў каля 300 сваіх навуковых працаў, ведамых далёка за межамі Беларусі. Гэта пад ягонай рэдакцыяй выйшла такое каштоўнае для школаў выданьне, як энцыклапэдыя «Беларуская мова». Мовазнаўца выказаў спадзяваньне, што ў недалёкім будучым выйдзе ўнармаваная «Граматыка для беларускіх школаў». Зусім нядаўна наш госьць браў удзел у міжнароднай канфэрэнцыі «Дыялёг цывілізацыяў», што праходзіла ў Вільні. Прафэсар падзяліўся з намі думкай наконт паняцьця «цывілізацыя». Ён лічыць, што «цывілізацыя» ёсьць ня толькі ўзровень разьвіцьця грамадзтва, але яшчэ і ўменьне карыстацца прыроднымі багацьцямі. Менавіта ад гэтага, на думку вучонага, і залежыць цяпер існаваньне кожнай краіны. Думкі праф. Арнольда Міхневіча, адрасаваныя маладой школьнай аўдыторыі, прымусілі задумацца юных грамадзянаў Літвы, бо гэта ад іх у хуткім часе будзе залежыць лёс нашае будучыні, а значыць і цывілізацыі.

*Настаўніца роднай мовы*
Алена Базюк

**Пэдагогі й вучні**
Баранавіцкіх музычнай і мастацкай школаў пабывалі 19-20 красавіка ў Вільні. Яны прынялі ўдзел у сьвяткаваньні юбілею Караткевіча, падпісалі доўгатэрміновую дамову аб супрацоўніцтве зь віленскімі дзіцячымі мастацкімі школамі. Вучні й настаўнікі школы імя Ф. Скарыны прапанавалі гасьцям цікавую праграму: наведаньне літоўскага сойму, экскурсію ў Дом-музэй Чурлёніса, знаёмства са Старым Горадам і ягонымі беларускімі мясьцінамі, наведаньне Літэрацкай Горкі на могілках Росы й эўрапарку. Для дзяцей была арганізаваная школьная дыскатэка. Начавалі госьці часткова ў школе, а часткова ў сем'ях вучняў і настаўнікаў.

*настаўнік хіміі й біялёгіі*
Павал Саўчанка



*Віленскі мастак і выдаўца кнігі "Беларускія народныя крыжы" Дзяніс Раманюк (пасярэдзіне з кнігай) на прэзэнтацыі ў віленскай школе імя Фр. Скарыны. Красавік 2001 г.*

**Здалі іспыты**
студэнты завочнага аддзяленьня катэдры беларусістыкі Віленскага пэдунівэрсытэту. Гэты курс незвычайны: амаль усе навучэнцы прыехалі ў Вільню з самых розных мясьцінаў Беларусі, нават зь Менску, і ўжо трэці год набываюць адукацыю на факультэце славістыкі. Вучыцца на катэдры 17 чалавек. Мяне зацікавіла, што прывяло іх у Вільню (дарэчы, некаторыя зь іх ужо маюць вышэйшую адукацыю). Студэнты П. Быкоўскі і У. Зусь лічаць, што ў Вільні высокі ўзровень навучаньня, невялікія групы, цудоўныя выкладчыкі, добразычлівая атмасфэра. Шмат цікавых спэцкурсаў, такіх як "мова сучаснага гораду" (жаргоны, арго ды інш), "бардаўская песьня", фальклярыстыка, "этнакультура Заходняй Беларусі" ды інш. На належным узроўні выкладаецца літоўская мова. Прываблівае Вільня нашых студэнтаў і тым, што тут вельмі багатыя бібліятэкі й архівы зь беларускімі дакумантамі й кнігамі. Студэнты наўвоч знаёмяцца зь беларускімі мясьцінамі Вільні, гісторыяй нашага адраджэньня, архітэктурай, мастацтвам. І яшчэ, што вельмі важна для моладзі, кошт навучаньня ў Віленскім пэдунівэрсытэце ніжэйшы, чым у адпаведных ВНУ ў Беларусі. Загадчыца беларускай катэдры Лілея Плыгаўка адзначыла, што нашыя завочнікі вылучаюцца сур'ёзнасьцю й сярод іх шмат талентаў: яны добра сьпяваюць, малююць, граюць на розных музыкальных інструмэнтах, пішуць вершы й апавяданьні.

Павал Саўчанка

**У нядзелю, 27 траўня, аб 12<sup></sup>**

**У нядзелю, 27 траўня, аб 12.00 у Царкве Сьв. Мікалая, што на вуліцы Вялікай (Дзіджою, 12), адбудзецца сход беларускай праваслаўнай грамадзкасьці. Мэта сходу – стварэньне ў Вільні Праваслаўнага беларускага прыходу. Запрашаюцца ўсе ахвотныя, час-бо ўжо і ў Царкве слухаць Слова Божае на роднай беларускай мове.**



# Трэба ехаць на Зьезд беларусаў сьвету!

Згодна са статутам Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", зьезды беларусаў сьвету павінныя адбывацца што чатыры гады. На сёлетні год прыпадае трэці гэткі зьезд. Пры цяперашнім стаўленьні ўраду Рэспублікі Беларусь да беларускае нацыянальнае справы, калі чарговы зьезд ЗБС не адбудзецца ў вызначаны статутам тэрмін, дык улады пачнуць рабіць яшчэ большыя, чым дасюль, перашкоды ў далейшай працы Згуртаваньня "Бацькаўшчына". Значыцца, сёлетні зьезд мусіць адбыцца, і тэрмін ягоны ўжо вызначаны — 4-5 ліпеня (чацьвер-пятніца) 2001 году.

Людзі ў замежжы пытаюцца: "Ці варта ехаць на той зьезд, калі ў Беларусі афіцыйныя чыньнікі зьневажаюць нацыянальныя сьвятасьці, дыскрымінуюць беларускую мову, заціскаюць свабоду, абражаюць патрыётаў, якія самаахвярна працуюць на грамадзкай, культурнай і палітычнай ніве?" Вось-жа пытаньне "Ці варта ехаць?" перш-наперш нелягічнае й недарэчнае. Зьезд-жа арганізуюць не дзяржаўныя чыноўнікі, а звычайныя грамадзяне-кіраўнікі ЗБС, патрыёты й абаронцы беларушчыны, якім даводзіцца працаваць у вельмі неспрыяльных абставінах. Ім якраз цяпер, як ніколі, патрэбная ўсялякая дапамога, маральная й матар'яльная, каб зьезд адбыўся ды прайшоў пры максымальным удзеле з боку беларускай дыяспары як з блізкага, гэтак і з далёкага замежжа. Удалае правядзеньне зьезду будзе красамоўным пакашчыкам жывучасьці беларускае нацыянальнае культуры й сьведамасьці, пакашчыкам сілы нашага агульнага пачуцьця грамадзянскасьці й палітычнае дасьпеласьці.

Кожнаму, хто вагаецца, ехаць ці ня ехаць, варта было-б паставіць сябе на мейсца арганізатараў зьезду, паспрабаваць уявіць, як "лёгка" ім, у абліччы безграшоўя й бясконцых перашкодаў ды цяжкасьцяў, рыхтаваць гэты зьезд.

Падарожжа на зьезд з замежжа — Злучаных Штатаў, Канады, Аўстраліі, Ангельшчыны, Бэльгіі, Францыі, Нямеччыны й г. д. — гэта ня толькі ўдзел у працы вялікага міжнароднага форуму беларусаў, гэта, найперш і найбольш, ёсьць акт маральнай падтрымкі ўсім тым на Бацькаўшчыне, хто нясе на сабе цяжар абароны нацыянальных вартасьцяў перад нечуванай навалай на іх. Удзел у зьезьдзе - гэта духовая падтрымка ня толькі арганізатарам зьезду, а кожнаму беларусу, дзе-б ён ня жыў, калі ён рупіцца пра разьвіцьцё беларускіх культурных вартасьцяў ды пра замацаваньне беларускае дзяржаўнасьці.

Карацей кажучы, удзел у Трэцім зьезьдзе беларусаў сьвету — гэта маральны абавязак кожнага беларуса замежжа зрабіць напачатку ліпеня падарожжа ў Менск, калі стан здароўя й фінансавыя магчымасьці дазваляюць на гэта. І той аргумэнт, што няма чаго туды ехаць, маўляў, улада не падабаецца, — ня мае пад сабой ніякага грунту. Наадварот, чым больш варожая беларушчыне ўлада, тым большы абавязак стаць поплеч тых, хто пад гэтай уладай жыве й, пакутваючы ад яе, бароніць свае спрадвечныя нацыянальныя каштоўнасьці.

Дык-жа будзьма салідарнымі з тымі, хто бароніць сваё! А калі каторы з нас ня можа сам паехаць, дык хай дапаможа матар'яльна справе правядзеньня зьезду і гэткім чынам замацуе сваё патрыятычнае імя патрыёта ў салідарнасьці з тымі, што знаходзяцца на перадавой лініі абароны й працы на карысьць Бацькаўшчыны!

12 красавіка 2001 г.
**Янка Запруднік**



**Апошні званок**
прагучэў 27 красавіка для выпускнікоў Сярэдняй школы імя Ф. Скарыны. Пад музыку, за руку зь першаклясьнікамі выпускнікі занялі ганаровыя мейсцы ў школьнай залі. З пажаданьнямі й віншаваньнямі да іх прыйшлі намесьнік пасла Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы сп. Ігар Шмыгаў. загадчыца беларускай катэдры пры Віленскім пэдунівэрсытэце Лілея Плыгаўка, былая вучаніца легендарнай Віленскай Беларускай Гімназіі Міраслава Русак. Першаклясьнікі падарылі выпускнікам керамічныя званочкі, ім былі ўручаныя памятныя мэдалі.

*Зьвіні над цяперашнім і над мінулым,*
*Зьвіні ты над тым, што збярог – не зьбярог,*
*Зьвіні. каб усе твае звоны пачулі –*
*Зьвіні, разьвітальны, апошні званок!*

Валянціна Кавальчук

# Матар'ялы да гісторыі Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні

Працяг зь першай старонкі

сьмерці. Ягоным імем і быў названы Музэй.

Ведама, што з 1908 г., у г. зв. "нашаніўскую пару", калекцыя перахоўвалася ў памешканьні рэдакцыі газэты "Наша Ніва" ў Вільні. Ужо тады ейныя цэнныя экспанаты й старадрукі служылі крыніцай натхненьня для многіх беларускіх пісьменьнікаў такой значнасьці, як Янка Купала, Максім Багдановіч ці Зьмітрок Бядуля. Ці-ж маглі ня ўзьдзейнічаць на іх такія памяткі беларускае гісторыі, як Біблія Скарыны, "Статут Вялікага княства Літоўскага", надрукаванага на дзяржаўнай тады ў ВКЛ, старабеларускай мове, калекцыя сусьветна вядомых слуцкіх паясоў, асобнікі "Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага і г. д.?

У 1918 г. у Вільні было створанае Беларускае Навуковае Таварыства, якому Іван Луцкевіч за год да сьмерці ахвяраваў усе свае зборы. У 1921 г. ягоная калекцыя была перавезеная у Базыльянскія муры на Вострабрамскую, 9 (цяпер Аўшрос Вартай). І гэты год прынята лічыць годам заснаваньня Музэю. Дырэктарскае становішча ў Музэі абняў брат Івана Луцкевіча, таксама вядомы адраджэнец Антон Луцкевіч. Пачалася праца над сыстэматызацыяй і спарадкаваньнем экспанатаў. Першыя запісы ў інвэнтарнай кнізе датуюцца ад 3 чэрвеня 1922 г.

Музэй разьмяшчаўся у тым самым будынку, што й заснаваная яшчэ ў 1919 г. Віленская Беларуская Гімназія. Такое суседзтва было ўзаемна карыснае для абедзьвюх нашых легендарных беларускіх установаў. Блізкае суседзтва Музэю непасрэдна ўплывала на фармаваньне сьветапогляду гімназістаў, на узгадаваньне ў гімназіяльных сьценах запраўды вартаснай беларускай інтэлігенцыі. Вучні гімназіі, ад самых малых да найстарэйшых, групамі і ў адзіночку почасту наведвалі Музэй, карысталіся зь ягонай бібліятэкі, і са свайго боку спрычыніліся да папаўненьня ягонай калекцыі экспанатамі.

Ня менш цесная лучнасьць была паміж Музэем і беларускай моладзьдзю, што вучылася ў Віленскім Унівэрсытэце імя Стэфана Баторага. Студэнты таксама папаўнялі фонды Музэю новымі экспанатамі з розных куткоў Заходняе Беларусі. Гэта былі пераважна экспанаты з галіны этнаграфіі, трапляліся й археалягічныя знаходкі. Зразумела, усё гэта безкарысьліва ахвяравалася Музэю й не магло быць гутаркі пра якую-колечы грашовую кампэнсацыю.

Стыль працы Музэю і ўся атмасфэра вакол яго характарызавалася выразнай апазыцыяй да польскіх дзяржаўных уладаў, якія праводзілі палянізатарскую палітыку ў дачыненьні насельніцтва Заходняй Беларусі. Ясна, што адраджэнская, культурна-асьветная дзейнасьць Беларускага Музэю выклікала выразна варожае стаўленьне палянізатараў, а з боку ўсяго заходнебеларускага грамадзянства, бяз розьніцы на ягоны ідэйна-палітычны напрамак, ня толькі прыхільныя, а часта ахвярныя адносіны.

У Музэі заўсёды можна было сустрэць як беларускую моладзь, так і старэйшых векам беларусаў-віленчукоў. А ў нядзелі й сьвяточныя дні Музэй масава наведвалі экскурсіі вяскоўцаў, што прыяжджалі ў Вільню за пакупкамі, на кірмашы ды з розных іншых патрэбаў. (Гэта якраз асабліва шкодзіла польскай дзяржаўнай прапагандзе). На жыхароў вёсак Віленскага краю, у асноўнай сваёй масе беларусаў, наведаньне Беларускага Музэю рабіла вялікае ўражаньне. Для ўзмацненьня гэтага ўражаньня Музэй прыдбаў грамплясьцінкі з запісамі беларускіх песьняў у выкананьні сусьветна вядомага беларускага опэрнага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага – іх прайгравалі на заканчэньне агляду музэйнай экспазыцыі.

Шавіністычныя польскія ўлады ўсялякімі магчымымі спосабамі імкнуліся прыбраць Музэй у свае рукі, зьмяніць стыль ягонай працы, перамаляваць ягоную шыльду, каб на ёй не было слова "Беларускі". Але да гэтага не дайшло, дзякуючы бескампраміснаму змаганьню сяброў Беларускага Навуковага Таварыства й адміністрацыі Музэю. Беларускім ён застаўся да пачатку нямецка-польскай вайны, і такім сустрэў акупацыю ў верасьні 1939 г. савецкімі войскамі Вільні, каторая напачатку была абвешчаная Саветамі "Сталіцай Заходняй Беларусі".

Аднак ужо ў кастрычніку таго самага 39 г. Беларускае Навуковае Таварыства, законны ўласьнік Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча, было зьліквідаванае шляхам фізычнага зьнішчэньня й вывазкі бальшыні ягоных сяброў на Ўсход. Пасьля перадачы на кароткі час Вільні літоўцам (канец кастрычніка 1939 г.) Музэй амаль не праяўляў ніякае дзейнасьці. Хоць Бел. Нав. Т-ва фармальна яшчэ йснавала, але штатных супрацоўнікаў у Музэі не засталося, а дзеля гэтага акрэсьленых гадзінаў працы Музэй ня меў.

Толькі з кастрычніка наступнага 1940 г., пасьля чарговай акупацыі Вільні і ўсяе Літвы Чырвонай Арміяй і ўтварэньня Літоўскай ССР, Музэй ізноў распачаў сталую працу, атрымаўшы новых гаспадароў. Спачатку Музэй, гвалтоўным чынам і юрыдычна незаконным шляхам ператвораны ў летувіскую дзяржаўную ўстанову, быў у падпарадкаваньні Інстытуту Літуаністыкі, пазьней - Акадэміі Навукаў Літвы. Працу ў Музэі ўзначаліў Марыян Пецюкевіч.





Існаваў Беларускі Музэй і падчас нямецкай акупацыі. Дырэктарам ягоным быў Янка Шутовіч. Напрыканцы акупацыі Музэй быў выкінуты з свайго памешканьня ў Базыльянскіх мурох і перавезены ў будынак Мастацкага інстытуту на вул Сьв. Ганны (Майронё). Зь ініцыятывы супрацоўнікаў Музэю частка найбольш каштоўных экспанатаў і старадрукаў была патаемна ад нямецкіх уладаў перавезеная ў касьцёл Сьв. Міхала, каб немцы ня вывезьлі музэйны скарб у Нямеччыну, як гэта здарылася з экспанатамі Менскага дзяржаўнага музэю. Дзякуючы гэтым сьмелым і небясьпечным для жыцьця намаганьням музэйных супрацоўнікаў, амаль усе экспанаты Беларускага Музэю засталіся ў Вільні.

Апошнім днём працы Музэю было 19 лістапада 1944 г. Тады зьявілася ўрадавая дэлегацыя БССР з прапановай пераезду Музэю ў Менск. Дырэктар Я. Шутовіч запрапанаваў, ня хочачы рашаць справу адзін, склікаць на 21 лістапада шырэйшую нараду з удзелам прадстаўнікоў беларусаў-віленчукоў. Але 20 лістапада Янка Шутовіч быў арыштаваны й асуджаны на 15 гадоў лягеру.

З сабраных тут матар'ялаў дастаткова яскрава вымалёўваецца вобраз Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні, як гістарычна-навуковай беларускай установы, што мела, з аднаго боку, выразную тэндэнцыю да аб'ектыўнага трактаваньня гісторыі наогул і, з другога боку, да абгрунтаваньня на падставе матар'яльных і пісьмовых гістарычных доказаў існаваньня Беларусі як дзяржавы ў выглядзе Вялікага княства Літоўскага - да абгрунтаваньня ейных дзяржаўных традыцыяў. Ужо гэтае адзінае было дастатковай падставай для ліквідацыі Музэю, калі прыняць пад увагу русыфікатарскую палітыку праводзімую ў БССР ды натуральнае нежаданьне летувісаў дзяліцца славаю "свайго" Вялікага княства Літоўскага зь беларусамі й іншымі народамі, што некалі разам зь імі гэтую славу здабывалі.

Цяпер на Беларускі Музэй у Вільні амаль што зусім забыліся. Застаўся хіба што ў памяці тых, хто быў сьведкам ягонай нястомнай дзейнасьці на карысьць беларушчыны й гістарычнай праўды, а такіх робіцца штораз менш. Ягонае йснаваньне замоўчваюць як беларусы, так і літоўцы. Пра яго ня згадваецца ні ў беларускім, ні ў літоўскім друку. Дый ня дзіва, бо адным сорамна, што чужым коштам прыдбалі такое багацьце, не сказаўшы нават "дзякуй" тым, хто яго па крупіцах зьбіраў; другім сорамна, што так лёгка адракліся ад сваёй нацыянальнай спадчыны праз страх за сваю ўласную скуру, яшчэ раз паказаўшы, што не зьяўляюцца гаспадарамі ў сваім доме...

Тут сабраная мо большая частка публікацыяў пра Беларускі Музэй з тых часоў, калі ён яшчэ йснаваў, а таксама нідзе не публікаваныя ўспаміны перадапошняга й апошняга дырэктароў Музэю Мар'яна Пецюкевіча й Янкі Шутовіча, што працавалі ў Музэі пасьля зьняволеньня й высылкі ў 1939 г. Антона Луцкевіча. Дапаўняюць гэтыя матар'ялы фатакопія інвэнтарнай кнігі Музэю й зробленыя ў свойчас Антонам Нэкандам-Трэпкам фатаграфіі музэйных экспанатаў.

Ужо адныя гэтыя матар'ялы даюць зацікаўленым даволі канкрэтнае ўяўленьне пра гісторыю Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні й ягоныя фонды.

Лявон Луцкевіч

*Вільня, лістапад 1978 г.*



У Вільні адроджаны беларускі касьцёл! У бажніцы Сьв. Барталамэя, на Зарэччы, штонядзелі зьбіраецца грамада Нашых землякоў і на сваёй роднай мове ўзносіць малітвы да Пана Бога. Яшчэ й яшчэ раз спраўдзіліся словы Сьвятога Эвангельля — усе народы ўслаўляць Пана Бога нашага.

Доўгі час чыніліся перашкоды беларускаму касьцёлу ў Вільні. Савецкая ўлада рэпрэсавала ўсіх ксяндзоў-беларусаў і ўсіх актывістаў касьцельнай грамады. Было спыненае выданьне рэлігійных кнігаў ды газэтаў, а тое, што раней было выдадзенае, схавалі ў спэцсховішчы. Іншыя "дабрадзеі" над самай мовай нашай пасьміхаліся, маўляў, простая, хамская, не для касьцёла, толькі ў хляве на ёй гаварыць да быдла. І вось нарэшце ўсім ганьбам і зьдзекам прыйшоў канец. Нароўні з усімі народамі й беларусы славяць Пана Бога й спасьцігаюць Ягоную навуку.

Толькі вось ня шмат яшчэ нас зьбіраецца, беларуская грамада ня можа цалкам утрымаць свой касьцёл. Таму зьвяртаемся да ўсіх добрых людзей з ласкавай просьбай ахвяраваць, хто колькі може.

***Беларуская каталіцкая грамада,***
***Управа Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве***

# За цаной не пастаім...

**1. Пачатак вайны й дапамога аліянтаў**

Камунізм Сталіна й нацызм Гітлера – гэта дзьве найбольш дыктатарскія сыстэмы дзяржаўнага кіраўніцтва. Два дыктатары, што былі непрымірымыя ворагі, да пэўнага часу й пад прыкрыцьцём, нібыта іх аб'ядноўвае сацыялізм, супрацоўнічалі між сабою. Калі–ж Гітлер ў чэрвені 1941 г., апярэдзіўшы Сталіна, нечакана напаў на Савецкі Саюз, дык камуністыя, пабачыўшы свае велізарныя людзкія, матар'яльныя ды тэрытарыяльныя страты, пачалі ўздымаць патрыятызм і баявы дух народаў СССР і заклікаць іх на барацьбу супраць агрэсара. Аднак, якім быў тадышні патрыятызм і баявы дух г. зв. "савецкага народу", можа сказаць толькі той, хто жыў у той час і бачыў пачатак вайны, бачыў уцякаючых савецкіх байцоў і вязьняў, што з клункамі вярталіся дамоў, чуў, што яны гаварылі.

Напэўна, Сталін адчуваў сябе вінаватым за катастрафічны для савецкага камуністычнага рэжыму пачатак вайны і гатовы быў панесьці адказнасьць за свой залішні давер да Гітлера й недаацэнку тых перасьцярогаў аб часе нападу гітлероўскіх войскаў, якія ён прайгнараваў. Таму першымі днямі вайны Сталін сядзеў на сваёй дачы ў Кунцава пад Масквой і чакаў, што яго прыйдуць арыштаваць. Аднак Палітбюро яго не арыштавала й паклікала да работы. Тады Сталін апрытомнеў і 3 ліпеня (пасьля 11–ці дзён ад пачатку вайны!) зьвярнуўся па радыё да народу са зваротам "Браты й сёстры!", заклікаючы яго ўсё нішчыць, нічога не пакідаць ворагу ды йсьці ў партызаны.

Але ці ўсе людзі маглі йсьці ў лес? Хто меў глядзець за старымі, малымі, хворымі, за гаспадаркай, каб пракарміць сябе, сям'ю і тых самых партызанаў Сталіна? Пра гэтае ў сваім звароце Сталін не казаў. Ён, як і ягоны папярэднік Ленін у часе рэвалюцыі ды грамадзянскай вайны, загадаў паліць і нішчыць усё, што нельга было ўзяць з сабой. Ды што значыў гэты заклік Сталіна для безабароннага мірнага насельніцтва, пакінутага на волю лёсу ганебна адступаючай Чырвонай Арміяй, каторая ў першыя два месяцы ад пачатку баявых дзеяньняў апынулася ажно пад Масквой? Падабалася каму ці не, але ў крытычнай сытуацыі дзеля захаваньня сваіх штодзённых інтарэсаў народ на акупаваных тэрыторыях мусіў супрацоўнічаць з акупантам. Як піша Алесь Петрашкевіч: "І ў апошнюю ўсенародную вайну Расея, а ніхто іншы, кінула нас пад ногі гітлероўскім зграям, у выніку чаго мой народ заплаціў за сваё выжываньне кожным трэцім жыцьцём. Трэцім, а не чацьвертым, як да гэтага часу сцьвярджае афіцыйная прапаганда, паказваючы наш савецкі патрыятызм" ("Народная воля" №160," верасень 1998 г.).

Працягваючы палітыку Леніна, Сталін у часе калектывізацыі пазбавіў мільёны людзей роднай хаты, уласнасьці, сям'і, жыцьця. Ён нішчыў нацыянальную сьведамасьць народаў СССР, ягоную інтэлігенцыю, зьнішчыў Царкву, выдатных каманьдзіраў. А калі грымнула бяда, пачаў успамінаць царскіх палкаводцаў і сьвятых: Аляксандра Неўскага, Дзьмітрыя Данскога, Суворава ды іншых расейскіх патрыётаў. Аднак галоўныя памылкі "мудрай палітыкі таварыша Сталіна" былі відавочныя: Чырвоная Армія без аглядкі бегла на ўсход або практычна бяз бою здавалася ў палон. У другой палове 1941 г. НКУС паведамляў, што ў радох савецкіх жаўнераў пашыранае п'янства, паніка, сьвядомыя самараненьні. Вінаватых або растрэльвалі перад палком, або адсылалі ў штрафныя батальёны. Гэта яшчэ больш дэзарганізоўвала армію. Як падаюць немцы, толькі за апошнія 6 мес. 1942 г. да іх перайшло 60 тыс. савецкіх жаўнераў.

Быў гэта сапраўды крытычны час для Сталіна. Паводле Джона й Карола Гарадс: "Пытаньне стаяла працягваць вайну супраць немцаў ці не... Жукаў казаў, што ён 7 кастрычніка быў сьведкам сытуацыі ў Крамлі, калі Сталін загадаў Берыі знайсьці г. зв. "Берасьцейскі мір", які быў заключаны зь немцамі ў 1918 г. Сталін хацеў міру за ўсякую цану. Як кажа Жукаў, ён быў гатовы аддаць балтыйскія краіны, Беларусь і частку Ўкраіны" ("Ворльд вор энд Совет піпл", ст. 19).

Перад нападам Гітлера, Сталін дапамагаў яму гаспадарча й палітычна ў вайне супраць Вялікабрытаніі й Францыі. Молатаў заяўляў, што абсурдна ваяваць супраць гітлерызму ў імя дэмакратыі. Сталін, падзяліўшы з Гітлерам Эўропу на сфэры ўплыву, напаў на Польшчу, на Фінляндыю, захапіў частку Бэсарабіі й балтыйскія краіны. І вось 3 ліпеня 1941 г. Сталін загаварыў раптам як "дэмакрат": "У гэтай вызваленчай вайне мы будзем мець верных саюзьнікаў у асобе народаў Эўропы й Амэрыкі.." А ўжо 12 ліпеня ён пісаў да Чэрчыля й прасіў яго адкрыць фронт у Паўночнай Францыі. Калі Гары Гопкінс, асабісты пасланьнік Рузвэльта, напрыканцы ліпеня таго самага 1941 г. абгаворваў са Сталіным сытуацыю, што склалася на фроньце, дык апошні перадаў яму даўжэзны сьпіс, у якім сярод іншых рэчаў была просьба прысланць 20 тыс. зэнітных гарматаў. 3 верасьня Сталін зноў прасіў Чэрчыля адкрыць другі фронт ды прысылаць штомесячна 30 тыс. тонаў алюміню, 400 самалётаў і 500 танкаў. Пры гэтым Сталін зазначаў, што бяз гэтай дапамогі Савецкі Саюз можа быць пабіты або аслаблены да таго, што ня будзе здольны дапамагчы саюзьнікам. 13 кастрычніка Сталін прапанаваў Вялікабрытаніі высадзіць у Архангельску або на поўдні Расеі (празь Іран) 25–30 дывізіяў дзеля супольных апэрацыяў на савецкай зямлі.

Ні брытанцы, ні амэрыканцы не маглі ў той час адкрыць новага фронту. Аднак яны пачалі аказваць СССР ваенную ды гаспадарчую дапамогу. Адна толькі дапамога ЗША ў 1942 г. складала 100 млн. дал. штомесячна, а ў наступным годзе ўзрасла да 250 млн. дал. штомесячна й заставалася такой да канца 1944 г. Як падаюць Майкал Бэльлер і Аляксандар Некрыч, за час вайны аліянты паставілі ў СССР 18 700 самалётаў, 10 800 танкаў, 9 600 гарматаў, 401 000 транспартных машынаў, 2 590 000 тонаў паліва, 172 000 тоны дроту й кабеля, 1 800 паравозаў, 11 300 вагонаў ("Утопія ін Вор", Лёндан, 1986, ст. 411–412). Для жаўнераў Чырвонай Арміі Англія паставіла 3 млн. параў ботаў, больш за 1 млн. мэтраў тканіны на абмуньдзіраваньне, мэдыкамэнты, розныя доктарскія прылады ды шмат што іншае.

Амэрыка, Брытанія, Канада, Аўстралія слалі ў СССР зброю, тэхніку, прадукты харчаваньня й важныя рэчы, якіх там не было, а калі й было, дык вельмі мала. Праз гэтую дапамогу Брытанія страціла 104 гандлёвыя й 22 ваенныя караблі й сотні маракоў, каторыя загінулі ад нямецкіх падводных лодак і самалётаў, што мелі свае базы ў Нарвэгіі. І па вайне вялікую дапамогу зруйнаваным вайною краінам, у тым ліку й СССР, аказаў "Плян Маршаля". (Гаворка йдзе пра заходнюю дапамогу краінам, каторыя былі пад нямецкай акупацыяй і праз тэрыторыю якіх два разы праходзіў фронт).

У часе Тэгеранскай канфэрэнцыі (1943 г.) Сталін прызнаў сваё цяжкое становішча й тое, што без амэрыканскае дапамогі цяжка было–б выйграць вайну. Нават у 1945 г. Сталін пісаў да прэзыдэнта Трумэна, што амэрыканская дапамога "Лэнд Ліс" адыграла важную ролю і ў пэўнай ступені спрычынілася да памыснага заканчэньня вайны. Найлепшым сьведчаньнем важнасьці амэрыканскай дапамогі для памысных вынікаў вайны могуць паслужыць і словы маршала Г. Жукава: "Амэрыканцы забясьпечылі нас шматлікімі матар'яламі, безь якіх мы не маглі–б стварыць нашых рэзэрваў, не былі–б здольныя працягваць вайну... Мы ня мелі выбуховых рэчываў. Не было нічога, каб запоўніць патроны вінтовак. Сапраўды, амэрыканцы ўратавалі нас выбуховымі рэчывамі. А колькі гэта сталі яны прыслалі нам! Ці маглі–б мы прадукаваць танкі, каб не было гэтае амэрыканскае сталі?" ("Ды Джорнал оф Славік Міністры Стадыс", т. 9, № 1, сакавік 1966).

Аднак у хуткім часе пасьля таго, як "гарачая" вайна скончылася перамогай аліянтаў ды распачалася вайна "халодная", у Савецкім Саюзе пачалі гаварыць і пісаць нешта зусім іншае. Так у "Гісторыі БССР" (т. II, 1958, ст. 361) чытаем: "Правячыя колы ЗША і Англіі дапамагалі Германіі ўзьняць яе ваенна–эканамічны патэнцыял, даўшы для гэтага велізарныя пазыкі. Усё гэта рабілася з мэтай накіраваць фашысцкую агрэсію супраць Савецкага Саюзу. Імпэрыялісты хацелі з дапамогай гітлераўскай Германіі зьнішчыць савецкую сацыялістычную дзяржаву". А яшчэ раней, у 1953 г. (як падае Мацю П. Галагер) палкоўнік М. Талчэнаў так патрактаваў дапамогу аліянтаў Савецкаму Саюзу: "... вялікая колькасьць транспартных караблёў, якія плылі ў СССР, была затопленая. Гэта сталася таму, што ангельскае марское камандаваньне сьвядома паведамляла немцам (!) час адплыву канвояў і маршрут, па якім яны будуць плысьці.. Кіруючыя колы ЗША й Англіі выкарыстоўвалі дэструкцыю транспарту, каб "даказаць", што дастаўка караблямі тавараў у СССР зьвязаная зь вялікай небясьпекай і на гэтай падставе абрэзаць свае й так мізэрныя пастаўкі" ("Ды Совет Гісторы оф Ворльд Вор II", ст. 50–51).

Што да апошняй сэнтэнцыі, дык усё тут "шыта белымі ніткамі", а што да першай, дык, як мы ўжо бачылі, ня "правячыя колы ЗША і Англіі дапамагалі Германіі ўзьняць яе ваенна–эканамічны патэнцыял", а таварыш Сталін заключыў з Гітлерам саюз і аж да самага нападу Нямеччыны на Савецкі Саюз дапамагаў ёй матар'яльна й палітычна супраць Англіі ды Францыі. А ці–ж не Заходнія краіны засьцерагалі Сталіна пра немінучы напад немцаў? Пра гэтае "Гісторыя БССР" маўчыць.

У сапраўднасьці аліянтам трэба было ўзброіць, абуць, накарміць Чырвоную Армію, пакуль яна сама змагла разгарнуць і разьвіць свой собскі ваенны промысел. Як паказала само жыцьцё, у Другой сусьветнай вайне галоўнымі фактарамі перамогі быў не людзкі патэнцыял, а ейная індустрыя й тэхналёгія...

Аднак пра калясальную дапамогу Савецкаму Саюзу з боку аліянтаў камуністы многа не гаварылі, не пісалі й амаль не гавораць цяпер. А ў Беларусі, пэўна, і дагэтуль у школах пераважна распавядаюць пра "партызанскую Беларусь" ды "рэйкавую вайну".

Юры Весялкоўскі

Працяг у наступным нумары

# Інквізыцыя? Сярэднявечча? Не —

*Спадар **Уладзімір Крылоўскі** прыслаў нам зь Нью Ёрку шэраг аналітычных артыкулаў, прысьвечаных адной з самых актуальных сёньня ў сьвеце тэме Другой чэчэнскай вайны. Артыкулы напісаныя зь веданьнем справы і ўтрымліваюць, напэўна, шмат няведамага нашаму чытачу. Мы распачынаем друкаваньне артыкулаў У. Крылоўскага з гэтага, а ў наступных нумарох газэты прадоўжым іхнюю публікацыю. Аднак ужо сёньня зацікаўленыя могуць прачытаць (пакуль што на рускай мове) усе артыкулы сп. Ул. Крылоўскага на нашым сайце ў Інтэрнэце: **www. runbel. lt**.*

**А. М.**

У Чэчэніі ўжо амаль год ні на гадзіну не перапыняецца партызанская вайна. Штодня па ўсёй рэспубліцы абстрэльваюцца фэдэральныя блёкпасты, падрываецца на мінах і фугасах ваенная тэхніка, гінуць ад партызанскіх куляў расейскія салдаты. Інтэнсыўнасьць нападаў гэткая, што вайскоўцам пры перасоўваньні не рэкамэндуецца спыняцца дзе-б тое не было больш, чым на тры (!) хвіліны. І гэта на «вызваленых», паводле словаў расейскіх уладаў, тэрыторыях!

Расейцы адказваюць жорсткімі рэпрэсіямі сярод грамадзянскага насельніцтва, адразу пасьля дывэрсыйных актаў, як нератам, «заграбаюцца» дзясяткі мушчынаў згодна адной толькі прыкметы: «Можешь, сука, держать в руках автомат?!" Тыя, каго "заграблі", вярнуцца ня хутка, калі наогул вярнуцца: іх вязуць у "фільтрацыйныя лягеры".

А па ўсё Чэчэніі — бясконцыя блёк-пасты і КПП, і праверкі, праверкі! І кожны ведае: у кожную хвіліну вось проста так могуць ні за што арыштаваць. Не пасьпееш азірнуцца — "фільтрацыйны пункт"! А там...

Цалкам зразумела, што злавесны "фільтар" Чарнакозава, якім чэчэнцы, напэўна, палохаюць дзяцей, — ня ёсьць ізаляваны аб'ект, створаны прыхамацьцю злога дзядзькі. Гэта элемэнт цэласнай, добра прадуманай сыстэмы, г. зв. "фільтрацыі затрыманых".

Што-ж гэта за такая "фільтрацыя", якая злавесным покрывам навісла над маленькім народам, каторы вочы ў вочы апынуўся перад генацыдам? Афіцыйна гэты працэс мае наўмэце шляхам дазнаньня "адфільтраваць" асобаў, што прымалі ўдзел у ваенных дзеяньнях супраць фэдэралаў, ад тых, хто ў гэтых дзеяньнях удзелу ня браў. На першы погляд, здавалася-б, усё законна. Але гэта толькі на першы погляд.

Расея ўжо амаль два гады вядзе ў Чэчэніі паўнамаштабную ваенную кампанію з прымяненьнем усіх (дзякуй Богу, апроч ядзерных) сучасных сродкаў узбраеньня. Ваенныя дзеяньні прызвалі на палі баёў амаль 150 тыс. салдатаў з абодвух бакоў, сагналі зь мейсцаў чвэрць мільёна мірных жыхароў, абяздолілі дзясяткі тысячаў расейскіх і сотні тысячаў чэчэнскіх сем'яў... Вайна!

Узгадаем "Договор о мире и принципах мирных взаимоотношений", заключаны паміж двума рэспублікамі чатыры гады таму назад. Яго падпісалі два усенародна абраныя прэзыдэнты — Аслан Масхадаў і Барыс Ельцын, каторы абвесьціў на ўвесь сьвет "о прекращении 4-векового военного противостояния России и Чечни" і пра тое, што "отныне все вопросы будут решаться только за столом переговоров политическим путём". Уся лёгіка падзеяў паказвае на тое, што захопленыя фэдэраламі падчас ваенных дзеяньняў або патрапленыя ў палон баевікі, а таксама асобы, што падазраюцца ў прыналежнасьці да іх, — зьяўляюцца, пасутнасьці, ваеннапалоннымі, каторыя падпадаюць пад Жэнеўскую канвэнцыю. У адпаведнасьці зь міжнароднымі нормамі нельга хаваць ад міжнароднай грамадзкасьці іхныя імёны, утрымліваць іх разам з крымінальнікамі, трымаць у бэтонных ямах, марыць голадам, зьбіваць, катаваць або расстрэльваць без суду...

Аднак расейскія ўлады, каторыя галаслоўна называюць ваенныя дзеяньні ў Чэчэніі "антытэрарыстычнай апэрацыяй", адмаўляюць вышэйпералічанай катэгорыі асобаў у статусе ваеннапалонных. Людзям, што падняліся на абарону свайго народу, прыгатаваны іншы статус — статус крымінальнікаў, якія падпадаюць пад адзін з найцяжэйшых артыкулаў КК РФ "Участие в незаконных бандформированиях".

Аднак і крымінальнік ў нашай краіне паводле Канстытуцыі не бязпраўны. Ён мае права на ордэр на арышт, на прад'яўленьне яму ва ўстаноўлены законам тэрмін абвінавачаньня, на сумоўе падчас сьледзтва з адвакатам... Ён таксама мае права на тое, каб на допытах яго не пяклі цыгарэтамі або распаленым зялезным прутам; не катавалі электрычным токам, не пагражалі начыста адрэзаць палавы ворган, надразаючы яго дзеля пераканаўчасьці пагрозы каля асновы...

Менавіта гэткае, і ня толькі гэткае адбываецца сёньня ў фільтрацыйных лягерох у Чэчэніі й на прылягаючых да яе тэрыторыях. Калі нейкай часткі зьняволеных у фільтрацыйных лягерох (напрыклад, захопленым з палічным на полі бою ці пры ўстаноўцы фугасу) й было прад'яўленае абвінавачаньне й нават выпісаны (няхай заднім лікам) ордэр на арышт, дык усё адно вялізная іхняя колькасьць сядзіць без усялякіх на тое юрыдычных абгрунтаваньняў. Яны проста пасаджаныя — і годзе! Аддадзеныя на поўную ўладу сваім катам-садыстам! Што датычыцца адвакатаў, дык пакуль неядома ніводнага выпадку допуску адваката ў фільтрацыйны пункт ("Экспресс-Хроника", 1 сакавіка, 2000 г., с. 1, "Интернаты от российской армии"; Правозащитный Центр "Мемориал" (Масква), "Обращение к Членам Парламентской Ассамблеи Совета Европы", верасень 2000 г.; У. Папкоў, дабрачынная арганізацыя "Гражданское содействие" (Масква) й Н. Эстэмірава, Прыёмная Праваабарончага

 





# РАТАВАЛЬНІКІ ЖЫДОЎ

*Перасылаю да рэдакцыі сваю новую рэцэньзію на кнігу* ***Нэхамы Тэц*** *з назвай "Defiance: The Bielski Partisans", выдадзеную ў Нью Ёрку ў 1993 г. Кніга вельмі цікавая й вартасная, да таго-ж мала хто, напэўна, ведае, што на Наваградчыне падчас апошняй вайны дзейнічалі ўзброеныя жыды. Рэцэньзію я назваў "Ратавальнікі жыдоў", бо мэтай Бельскага было ратаваць жыдоў, а не ваяваць зь немцамі. Дык ці можна яго й ягоных людзей называць партызанамі?*

Міхаіл Швэдзюк

Аўтарка кнігі, Нэхама Тэц, жыдоўка родам з Польшчы, якой у драматычных абставінах удалося пазьбегчы трагічных наступстваў падчас астатняе вайны. Цяпер жыве ў ЗША й ёсьць прафэсаркай сацыялёгіі на Унівэрсытэце ў Пэнсыльваніі ў Стамфордзе.

Герой кнігі, Тувія Бельскі (1906 - 1987), жыд, родам зь вёскі Станкевічы каля Навагарадку. Бацькі ягоныя займаліся земляробствам. Да вайны Т. Бельскі жыў у мястэчку Суботнікі на Наваградчыне. Тут і захапіла яго Другая сусьветная вайна. Ужо пры Саветах, дзеля бясьпекі, Тувія пераяжджае ў Ліду, дзе й жыў ажно да прыходу немцаў. Немцы й паліцаі злавілі яго ў Навагрудку. Ведаючы, што акупаннты твораць з жыдамі, Тувія й ягоныя браты ўцяклі ад іх і пачалі хавацца па лясох ды па вёсках у добрых сваіх знаёмых. Да іх далучыліся й іншыя жыдыўцекачы. Дапамагалі ім мяйсцовыя беларусы, даючы прытулак старым, няздолным, пераважна кабетам. Праз гэтую дапамогу й спачуваньне беларусы потым самыя цярпелі ад немцаў.

У вёсках рабілася жыць небясьпечна, і Бельскі зь іншымі супляменьнікамі пачалі жыць у зямлянках у лесе, стараючыся прыцягнуць да сябе як мага больш жыдоў з розных мяйсцовасьцяў, пераважна бежанцаў з Наваградзкага й Лідзкага гетаў. Мяйсцовыя беларусы, такія, як Канстаньцін Казлоўскі з хутара каля в. Макрэц, дапамагалі ў гэтым Бельскаму. У сярэдзіне 1942 г. група Бельскага налічвала ўжо 30 чалавек. Было пастаноўлена заарганізаваць партызанскі аддзел. Назвалі яго "атрадам Жукава". Потым перайменавалі. Аднак гэты партызанскі аддзел заўсёды быў вядомы як "атрад Бельскага".

Памалу атрад разжываўся зброяй, якая была патрэбная дзеля абароны й паходаў у вёскі за правіянтам, дый ня толькі за правіянтам... Галоўнай мэтай Бельскіх было ратаваць ад зьнішчэньня жыдоў: маладых і старых, хворых і здаровых, мушчынаў і кабетаў. З часам атрад у дзясяткі разоў павялічыўся (у 1944-ым налічвалася ў ім 1200 чал.). Пачаліся дыскусіі й спрэчкі пра тое, якая мае быць галоўная мэта аддзела. Маладзейшыя настойвалі на баявых дзеяньнях, аднак Бельскія ўпарта трымаліся адзін раз абранай пазыцыі: ратаваньня супляменьнікаў. Тувія часта паўтараў: «Лепш выратаваць аднаго жыда, чым забіць дваццаць немцаў».

Варта тут адзначыць, што бальшыня людзей у атрадзе апынулася толькі дзеля выратаваньня свайго жыцьця, а не для вайны зь немцамі. Нічога дзіўнага, што з гэтай прычыны даходзіла да непаразуменьняў з савецкімі партызанамі. Але дамо слова Зораху Арлюку, які мужна ваяваў у савецкім партызанскім атрадзе «Іскра»: «Калі хто-небудзь скажа, што ён пайшоў у партызаны, пабуджаны ахвотай ваяваць ды помсьціць, дык гэта далёкае ад праўды. Усе мы пакінулі гета з надзеяй застацца ў жывых». Словы партызана Арлюка гучаць пераканаўча. У іх няма савецка-камуністычнай прапаганды, нібыта ў партызаны йшлі «дабраахвотна», каб ваяваць і паміраць «за Леніна, за Сталіна, за партыю».

Некаторыя людзі ў атрадзе Бельскага лічылі, што наяўнасьць такой вялікай колькасьці кабетаў, дзяцей, старых і няздольных да бою можа прывесьці да катастрофы, што немагчыма дастаць неабходнае для выжываньня харчаваньне. На гэта Тувія адказваў: «Чаму вы так многа клапоціцеся пра харчы? Няхай вясковыя жыхары клапоцяцца. Тое, што нам патрабнае, мы дастанем у вяскоўцаў, а да нас няхай далучаецца як мага больш жыдоў». І, сапраўды, за харчамі ў блізкія вёскі з аддзелу Бельскага рэгулярна адпраўляліся ўзброеныя людзі. Гэткім чынам, у мяйсцовых сялянаў-беларусаў і немцы, і партызаны, і байцы Арміі Краёвай, і рознага гатунку прахадзімцы адбіралі цяжка запрацаванае імі дабро. Вось што ўспамінае адзін з партызанаў: «Агульна беручы, мяйсцовае насельніцтва апынулася пасярэдзіне: уночы прыходзяць партызаны са сваімі вымаганьнямі, а ўдзень — немцы. Вясковыя жыхары баяліся адных і другіх». А яшчэ адзін партызан-жыд спамінае: «Партызан быў нечым сярэднім паміж героем і рабаўніком. Нам трэба было жыць, і мы мусілі адбіраць у сялянаў іхныя жалю вартыя рэчы. Мяйсцовыя сяляне былі караныя немцамі й намі. Вось калі-б яны былі настроеныя пранямецкі, дык тады было-б лягчэй... Мы часта сілай адбіралі ў сялянаў, каторыя былі не за немцаў». І ў іншым мейсцы: «Хоць часам канфіскаваныя намі харчы й маглі-б у будучым пайсьці да немцаў, аднак усё адно зьбіраньне харчоў партызанамі было свайго роду рабункам. Сяляне й так былі грабленыя немцамі. Яны былі бедныя... Аднак мы мусілі так паводзіцца, бо яны не аддалі-б нам сваё па добрай волі. Мы былі ў цяжкім становішчы.... Часам забіралі ў іх апошнюю карову або апошняга каня».

Вышэй прыведзеныя цытаты сьведчаць пра безвыходную й цяжкую сытуацыю беларускага сялянства падчас апошняй вайны. Сведчаць і пра аб'ектыўны падыход і разуменьне партызанамі-жыдамі гэтай цяжкой сытуацыі. Яны ня пішуць, што сяляне «дабраахвотна і з задавальненьнем» аддавалі сваё дабро партызанам, як пра тое пісалася ў савецкіх кнігах.

Падчас вайны зь мяйсцовага насельніцтва была створаная мяйсцовая паліцыя. Партызаны Бельскага мусілі часам забіваць паліцыянтаў, а каб і іншых людзей настрашыць супрацоўніцтвам з акупантамі, растрэльваць ня толькі самых паліцыянтаў, а й іхныя сем'і. Такая жахлівая рэчаіснасьць вайны. А так як тады ў Беларусі разьмясьціліся немцы, вялікая савецкая партызанка, польская АК ды інш., — дык нічога дзіўнага, што беларускае вясковае насельніцтва гэтак шмат пацярпела. Часьцей за ўсё нявінна.

Як мы ўжо згадвалі, у атрадзе Бельскага было шмат юнакоў і дзяўчатаў. Не абыйшлося й без раманаў: вясельлі, аборты. Падобная сытуацыя назіралася і ў савецкіх партызанскіх атрадах, дзе некаторыя маладыя партызанкі называліся «пераходнымі жонкамі». Чытаем: «Маладыя дзяўчаты спалі таксама з рускімі каманьдзірамі, палітрукамі або з тымі, хто быў пры ўладзе».

У ліпені 1944 г., пасьля прыходу Чырвонай Арміі, атраду Бельскага быў дадзены загад пакінуць лягер і ехаць да Навагрудку. Аднак, як высьветлілася, ня ўсе з паплечнікаў Бельскага былі ўдзячныя яму за выратаванае жыцьцё. Ужо ў Навагрудку на Тувія быў зроблены данос у савецкі НКУС з боку былых партызанаў зь ягонага атраду. Тувія, добра ведуючы савецкую рэчаіснасьць і "законнасьць", ведаючы пра наступствы падобных даносаў, уцякае разам з братамі й жонкай спачатку ў Румынію, а стуль у — Палестыну (1945 г.). У Ізраілі Тувія бярэ ўдзел у вызвольнай вайне, па аканчаньні якой працуе... таксістам. Гэткая мэтамарфоза, з каманьдзіра вялікага партызанскага атраду і ўратавальніка жыдоў на вадзіцеля таксі, урэшце расчаравала Тувія Бельскага. У 1956 г. ён эмігруе зь сям'ёй у ЗША, дзе й пражыў да самай сьмерці (1987 г.). Пахаваны ў Ізраілі.

Кніга «Выклік: партызаны Бельскага» чытаецца зь цікавасьцю. Аўтарка не ідэалізуе партызанаў, бо, сапраўды, тагачасная рэчаіснасьць была шэрая, празаічная, цяжкая, трагічная. Нэхама Тэц піша, абапіраючыся на факты й расповяды ўдзельнікаў атраду Бельскага, сама гутарыла з Тувіям. У кніжцы абшырная бібліяграфія, што надае ёй яшчэ большую гістарычную вартасьць. Аднак, паўтару, што найвялікшая вартасьць кнігі палягае на тым, што аўтарка аб'ектыўна паказвае два бакі дзейнасьці партызанаў: патрыятызм і рабункі невіноўных і бедных беларускіх сялянаў, ратаваньне жыцьцяў адных і растрэльваньне цэлых сялянскіх сем'яў, адбіраньне ў сялянаў ня толькі харчоў, але й хатніх рэчаў, вопраткі, кажухоў, апошняй свойскай жывёлы й птушкі. Трэба помніць і пра гэты, нэгатыўны, бок партызанкі.

Атрад Бельскага разьмяшчаўся на Наваградчыне і ў Налібоцкай пушчы, г. зн. у Заходняй Беларусі. На жаль, у кніжцы беларускія прозьвішчы, геаграфічныя назвы мяйсцовасьцяў пішуцца ў польскай транскрыпцыі.

Праф. Нэхама Тэц напісала яшчэ 6 кнігаў, а сярод іх *«In the Lion's Den: The Life of Oswald Rufeisen"*, у каторай, напэўна, таксама ёсьць зьвесткі з гісторыі Беларусі.

Міхаіл Швэдзюк
*Лёндан*

# ЧЭЧЭНІЯ, ГОД 2001-ШЫ.

Цэнтру "Мемориал" у Назрані (Інгушэція), "Несколько интервью с участниками чеченской трагедии. Свидетельства очевидцев" — матар'ял быў распаўсюджаны сярод чальцоў ПАСЕ, Страсбург, верасень 2000 г.).

Калі ўлічыць, што ў «фільтрацыйных пунктах» зьбіваюць і катуюць са стратай здароўя практычна ўсіх, а таксама тое, што там распаўсюджаныя патаемныя бязсудныя расстрэлы зьняволеных, у тым ліку групавыя — вядомыя выпадкі, калі дзеля таго, каб схаваць такія расстрэлы ды стварыць уражаньне, нібы чэчэнцы загінулі ў баі, зьняволеных вывозілі на поле баёвых дзеяньняў і там расстрэльвалі — можна з перакананасьцю сфармуляваць і ажыцьцяўляемую на практыцы (афіцыйна, зразумела не абвешчаную) задачу «фільтрацыі»: *зьнішчыць або ператварыць у інвалідаў як можна большую колькасьць чэчэнскіх мушчынаў* (у кожным зь іх расейскія ўлады бачаць патэнцыйнага баевіка). Г. зн. дарабіць тое, што не ўдалося зрабіць падчас баёвых дзеяньняў. Усё гэтае лёгка ўпісваецца ў схему генацыду, прычым такога, які зьдзяйсьняецца ў рамках дзяржаўнай палітыкі. Паводле дадзеных газэты "Коммерсант-le Monde" (15 лютага 2000 г.), "Москва планирует пропустить через "фильтрационные пункты" 150 тыс. чеченцев"

Апрача разьмешчаных у вайсковых частках і на блёк-пастах часовых мейсцаў утрыманьня затрыманых (часьцей за ўсё гэта прости глыбокія ямiны), "фільтрацыя" сёньня зьдзяйсьняецца ў Чарнакозаве, Грозным, Гудэрмесе, Ханкале, пасяленьні Хатуні (Вядзенскі раён), Урус-Мартане (будынак былой школы, іранічная назва "інтэрнат"), Ачхой-Мартане, Аргуне, у пасяленьні Талстой-Юрт (падземны бункер), Гарагорску, Гарачаводзку, у сяле Соны (Шатойскі раён), на станцыях Кадзі-Юрт и Чэрвлёная-Вузлавая (адумыслова абсталяваныя вагоны — "вагонзэкі"), у рухомай колавай турме (Грозны — Гудэрмес — Чэрвлёная — Вузлавая — Кадзі-Юрт), у Маздоку, Стаўрапалі, Пяцігорску, Таганрогу ды інш... І паўсюль практыкуюцца жорсткія, садзісцкія катаваньні, і паўсюль існуе практыка водкупу, і маецца нават сыстэма расцэнак: за выхад на свабоду, за захаваньне жыцьця, за захаваньне здароўя...

Ну, а чые сваякі ня могуць іх выкупіць, але каго зь нейкіх прычынаў не расстраляюць, не заб'юць, не закатуюць да сьмерці, каму пашчасьціць дайсьці да суда, — тыя, атрымаўшы згодна свайго артыкулу максымальны (калі вытрываў супраць вярбоўкі ў "стукачы") тэрмін, адправяцца ў зону, у надзеі ўсё-ж калі-небудзь вярнуцца дамоў. А на зоне іх чакаюць не дачакаюцца азлобленыя няволяй, ачмураныя, як і большасьць расіянаў, крымінальнікі, перакананыя ў тым, што дамы ў Маскве паднялі ў паветра чэчэнцы, і выбух на Пушкінскай плошчы арганізавалі таксама яны. Дый яшчэ "кум" будзе на чэчэнца-зэка нацкоўваць, у яго напэўна маецца такая інструкцыя...

Палітыку Крамля ў дачыненьні да палонных чэчэнцаў зьдзяйсьняе армія, МВД, ФСБ і міністэрства юстыцыі... Прэзыдэнт У. Пуцін (можна не сумнявацца) ва ўсіх дэталях асьведамлены пра тое, як гэтая палітыка уцелясьняецца ў жыцьцё. Генэральная й Ваенная пракуратуры Расейскай Фэдэрацыі — галоўныя гаранты захаваньня ў краіне законнасьці — маўкліва патураюць усяму гэтаму...

Уладзімір Крылоўскі
*Нью Ёрк - Масква*

# БЕЛАРУСЫ БРАНСКАГА КРАЮ:
## НА СУМЕЖЖЫ ТРОХ СЛАВЯНСКІХ КУЛЬТУРАЎ

Заканчэньне. Пачатак у №№ 38,39

### 3. Помнікі культуры

На паўночнам захадзе Браншчыны паміж шматлікімі помнікамі расейскай і ўкраінскай архітэктуры захавалася колькі помнікаў беларускай школы. Папершае, гэта мураваныя касьцёлы, пабудаваныя у 1618-1648 гг., калі захад Браншчыны зноў увашоў у склад ВКЛ. На сёньня існуюць: моцна разбураная Прэабражэнская царква ў Трубчэўску ("касьцёл", як называюць тамтэйшыя людзі), пабудаваная ў 1640 г., аб чым сьведчыў надпіс на муры; значна перабудаваная царква Св. Ганны у Пагары (п. XVI ст.), былы касьцёл. У Трубчэўску таксама захавалася "каменіца" (XVIII ст.) — помнік сьвецкай архітэктуры тыповы для тагачаснай Беларусі і Ўкраіны. Моцныя рысы беларускай готыкі й бароку маюць некаторыя праваслаўныя мураваныя цэрквы XVIII ст.: царква Пакрова ў в. Вітаўка Почапскага р-ну (апошняя трэць XVIII ст.); царква Зьміцера Салунскага ў в. Старае Задубеньне, Унечскага р-ну (1780 г.). Цікава, што у XIX ст. на захадзе Браншчыны мясцовыя паны будавалі маёнткавыя праваслаўныя цэрквы цалкам у "касьцёльным" (раманскім, гатыцкім) стылі. Гэта, напрыклад, мураваная царква Міколы Цудатворцы ў в. Смалевічы, Клінцоўскага р-ну (1858 г.), царква Прэабражэньня ў в. Тварышычы, Жырацінскага р-ну (сяр. XIX ст.). Параўнальна мала захавалася драўляных храмаў, пабудаваных у традыцыях беларускага народнага дойлідзтва. Гэта Троіцкая царква у в. Стары Крывец, Навазыбкаўскага р-ну (1795-1797 гг.), царква Пакрова у в. Высокаселішча, Сураскага р-ну (1761 г.), царква Усьпеньня у в. Красны рог (1777 г.) у маёнтку вядомага расейскага пісьменьніка А. К. Талстога. Узорны помнік беларускага тыпу ў прадмесьці Навазыбкава - царква ў Людкаве (1754) — недаўна спаленая. У бліжэйшы час Беларусі трэба хіба ўстанавіць памятныя шыльды на ўсіх помніках беларускай архітэктуры (шмат якім патрэбная й рэстаўрацыя), тым больш, што зь беларускім паходжаньнем згаджаюцца й расейскія дасьледчыкі[21]. У зборах бранскіх музэяў захоўваецца шмат беларускага іканапісу (XVII-XVIII ст. ст.), народнага адзеньня, ручнікоў. Недаўна на месцы партызанскай стаянкі знойдзены беларускі друкарскі шрыфт. На захадзе Браншчыны засталося шмат выразна беларускай тапаніміцы з канчаткамі на -буда, -гута, -рудня, між іншым, падамо наступныя назвы вёсак (у расейскай транскрыпцыі): *Витовка, Войтовка, Лялички, Чекалина слобода, Коханово, Добродеевка, Могилевцы, Батуровка, Якубовка, Католино, Найтоповичи, Рахманово, Чаусы, Яцковичи, Яновка, Упрусы, Литовск, Литовни, Литовня, Крыжино, Папсуевка, Кветунь, Кожаны, Синий колодезь, Юрасов хутар*. Беларускай дзяржаве трэба адзначыць памятнымі шыльдамі мясьціны дзейнасьці на Браншчыне славутых постацяў нацыянальнага й палітычнага руху, большасьць зь якіх ураджэнцы тутэйшага краю. Маем на ўвазе Марысю Косіч — радзіма в. Рассуха, месца пахаваньня разбураны Разрытаўскі манастыр (6 км ад вёскі); Паўла Растаргуева — радзіма г. Старадуб, могілкі у Навазыбкаве; Мікалая Галадзеда — радзіма в. Стары Крывец. У Старадубе сталы час працаваў і жыў Францішак Багушэвіч, тамсама ў Кацярынскай вязьніцы за царскіх часоў адбываў пакараньне Язэп Лёсік; у в. Слабадзішча стала пражываў былы паўстанец Каліноўскага — Ігнат Гедройць. Зрабіўшы гэтую пачэсную справу, беларускі бок споўніць свой гістарычны абавязак.

**Андрэй Катлярчук**
*Slavic Institute,*
*Uppsala University,*
*Швэцыя*

[21] *Свод памятников архитектуры и монументального искусства России. Брянская область. М., 1998. С.17-18.*

 

# Там, дзе мяне няма...

*Працяг. Пачатак у №№ 36 - 39*

7. Вучоба ў ВБГ (беларускай прагімназіі). Жыццё ў "лясной хатцы".

Я хадзіла ў беларускую прагімназію на Дамініканскую вул. (будынак прагімназіі, што месьціўся насупраць касьцёла Дамініканаў, быў разбураны ў часе вайны бомбай і ная гоным мейсцы пабудавалі новы). Трэба сказаць, што беларускае грамадзтва пасьля шматлікіх арыштаў 39-га было запалоханае й пасыўнае, дый ня ведала, чаго чакаць ад новых уладаў. Заняткі аднак праходзілі нармальна, вучыліся па старых падручніках: "Граматыка" Тарашкевіча, "Хрэстаматыя" Дварчаніна, "Геаграфія" Смоліча ды інш. У школу я хадзіла пехатой (6 км), узімку было асабліва цяжка, шмат сьнегу, часта па калена, пакуль выбіралася зь лесу, дык уся была ў сьнезе. Часам праз гэтае позьнілася ў школу. Аднаго разу нехта з вучаціялёў, здаецца, А. Карпюк, завёў мяне да дырэктара, сказаўшы: "Вось! Зноў спазьнілася!" Кс. Адам Станкевіч толькі запытаўся, як я вучуся (а я вучылася добра) й сказаў ісьці ў клясу. Пасьля ён відаць пагаварыў з вучыцелем, бо той падыйшоў да мяне на перапынку й вінавата сказаў: "Я ня ведаў, што ты так далёка жывеш і ходзіш пехатой". На гэтым усё й закончылася.

Вучыцялі ў нас былі добрыя. Алёна Сакалова-Лекант, пані Алёна - так называлі яе ўсе - была настаўніцай беларускай мовы ў малодшых клясах. Яна сама паходзіла зь Вільні, тут нарадзілася, закончыла Інстытут высокародных паненак, тут жыла, працавала, тут і памерла. Мала вядома пра тое асяродзьдзе, у якім яна гадавалася, але тая чысьцюткая беларуская мова, якую пані Алёна ўкладала ў галоўкі сваіх дзяўчатаў і хлапчукоў, была не з унівэрсытэту, а з тае беларускае моўнае стыхіі, што панавала ў Вільні й ейным навакольлі на пераломе XIX і XX ст. ст. Пані Алёна была прыроджаным пэдагогам, паважна ставілася да сваёй працы, заваявала высокі аўтарытэт сярод гімназістаў. Дзясяткі гадоў пасьля заканчэньня гімназіі ейныя былыя вучні ў спрэчках, як правільна гаварыць, ужывалі важкі аргумант: "Правільна так, як нас вучыла пані Алёна!" Алёна Сокалава-Лекант працавала ў гімназіі ад пачатку (1919) да ейнай ліквідацыі ў 1944 годзе. За свае заслугі яна атрымала на 25-гадовы юбілей гімназіі "Крыж Заслугі" ад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, а ад савецкай улады... 6 гадоў лягероў. Зь лягероў яна вярнулася ў родную Вільню. Яе часта наведвалі былыя вучні З. Каўшанка, Л. і Ю. Луцкевічы, А. Шантыр ды інш., - яны й праводзілі яе ў апошні шлях на Еўфрасінеўскія могілкі, што на Ліпоўцы.

Матэматыку ў малодшых клясах выкладаў А. Карпюк, нямецкую мову - Зоя Новік (сястра вядомага нашага віленскага опэрнага сьпевака, а цяпер і грамадзкага дзеяча Лявона Мурашкі), якая закончыла германістыку ў Віленскім Унівэрсытэце; сьпеў выкладаў Сымон Кароль, літоўскую мову — жонка (прозьвішча ня ўзгадваецца) аднаго літоўскага афіцэра, якая ня мела спэцыяльнай пэдагагічнай падрыхтоўкі дый падручніка, так што зь ейных лекцыяў карысьці было ня шмат. А лаціну ў нас выкладаў Мікола Анцукевіч.

Мікола Анцукевіч вылучаўся сярод іншых настаўнікаў сваёй зьнешнасьцю: высокі, заўсёды падцягнуты, акуратна, нават элегантна апранены. Усьміхаўся ён мала, часам толькі на ягоным твары зьяўлялася іранічная ўсьмешка. Ён быў строгі, ад сваіх вучняў шмат вымагаў, але й даваў ім шмат. Быў чалавекам высокай культуры, з грунтоўнай адукацыяй, дасьведчаным пэдагогам. У гімназіі была шырокая праграма лацінскай мовы, і веды атрыманыя тут адпавядалі курсу лаціны на філялягічным факультэце унівэрсытэту. Пасьля ліквідацыі гімназіі М. Анцукевіч працаваў у Віленскім пэдагагічным інстытуце (цяпер унівэрсытэце) таксама выкладчыкам лаціны.

Нашая кляса была невялікая, я сябравала з Соняй Ваяводзкай і ейным братам Тосікам, з нашай клясы памятаю яшчэ Мар'яна Доўнара, Соню Анушку й ейнага брата.

Год жыцьця ў сьметонаўскай Літве прайшоў спакойна. Людзі пачалі прывыкаць да новай улады. Былі, ясна, асабліва для тых, хто працаваў у дзяржаўных установах, праблемы з літоўскай мовай, бо ўсялякія дакуманты, заявы, анкеты й пад. трэба было пісаць па-літоўску.

Напрыканцы 1939-40 навучальнага году нашая кляса з вучыцелем М. Анцукевічам паехала на экскурсію ў Коўню. Нядаўная сталіца Летувы зрабіла на нас добрае ўражаньне: дагледжаныя дамы, шырокія роўныя вуліцы, вельмі спадабалася Лайсвес Алея, Жалякальніс, Ажуалінас. Стары Горад плошчай быў меншы, чым Вільня, аднак таксама цікавы рознымі архітэктурнымі стылямі, пераважна готыкай і рэнэсансам, асабліва спадабаўся белы лёгкі будынак ратушы.

У Каўнасе нас спатыкаў і знаёміў з горадам Клаўдзій Дуж-Душэўскі, вядомы ў Літве архітэктар і беларускі дзеяч. У нас дома былі нумары часопісу "Крывіч", які К. Дуж-Душэўскі выдаваў разам з Вацлавам Ластоўскім. У часопісе супрацоўнічаў і літоўскі заоляг Тадас Іванаўскас, брат бел. грамадзкага дзеяча Вацлава Іваноўскага. Былі ў нас і падручнікі, перакладзеныя Дуж-Душэўскім на бел. мову, і складзены ім "Слоўнік матэматычных тэрмінаў". К. Дуж-Душэўскі запомніўся як вельмі сымпатычны, прыязны чалавек, ён паказаў нам і будынак цэнтральнай пошты на Лайсвес Алеі, збудаваны паводле ягонага праекту. Пабывалі мы і ў "Каро музеюс" (Ваенным музэі), і ў Заалягічным музэі, дзе былі вельмі багатыя калекцыі матылькоў, сабраныя ўжо згаданым Т. Іванаўскасам... Пасьля шэрай, занядбанай Вільні Каўнас здаваўся нам эўрапэйскім горадам.

Нашая сям'я прывыкала да новага мейсца. Тут быў спакой, цішыня, напоўненае пахам жывіцы паветра, — і безь ніякіх суседзяў. Бабуня Міла, которая цэлы час была дома, таксама абыходзілася без суседзяў. У вольны час яна чытала, шыла, вышывала.

Залажылі агарод, пасеялі ўсялякае варыва, пасадзілі ягадныя кусты, трускаўкі, каля дому кветкі й дэкаратыўныя кусты, дэўцыю, якая цьвіла ў чэрвені белымі або ружовымі кветкамі, бэз, поўны белы й лілёвы. Тата зрабіў "школку", пасадзіў у ёй дзічкі яблыняў, а на наступны год зашчапіў іх, выбіраючы розныя гатункі яблыкаў: антонаўка, антонаўка-паўтарафунтоўка, шэрыя, штрэфнігі, пэпін, ананас, графштэйн.

Наўкола быў лес: старыя, хіба як стогадовыя дубы, клёны, вольхі, чаромха, ліпы. На пагорку насупраць фасаду дому расьлі вялікія елкі, а калі йсьці па сьцежцы, дык даходзілася да сасновага бору. Часткова гэта былі ўжо вялікія сосны, бор быў без падшыцьця, на доле толькі трава ды мох, а далей пачыналася дзялка нейкага "сяржанта", катарага ніхто ніколі ня бачыў і ня помніў, але ўсе казалі, што яна належала да "сяржанта". Там расьлі маладыя сосны.

У лесе была багатая расьліннасьць. Расьлі там і вельмі рэдкія ў нас кветкі - архідэі. Адзін гатунак архідэяў, "вячорнікі", цьвілі ў чэрвені - на сьцяблах цэлая гронка белых пахкіх кветак, што асабліва моцна пахлі ўвечары. Другі гатунак, "Вэнэраны чаравічкі" - жоўтабардовыя кветкі ў форме чаравічка. А яшчэ вясною пагоркі сінелі пралескамі: яны былі рознага адценьня, ад цёмна-сініх да белых, траплялся ружовыя й фіялетавыя. У бары цьвілі сончыкі. Іхнія кветкі-званкі былі пакрытыя звонку серабрыстым пушком і выглядалі асабліва прыгожа, як на іх зіхацелі кропелькі расы. Цьвілі й воўчае лыка, пахучымі ружовымі густа пасаджанымі на галінкі кветачкамі, каторыя потым пераўтвараліся ў чырвоныя ягады. Мы, дзеці, ведалі, што воўчае лыка, хоць і прыгожая, але атрутная расьліна. Пазьней зацьвіталі ружова-сінія мядоўнікі, белыя ды жоўтыя канапелькі, а летам орлікі й званкі, смолка, гарошак, лілеі зь невялікімі брудна-ружовымі кветкамі. У лесе было поўна розных птушак: дзікія галубы, совы, сойкі, сінічкі, стракатыя й зялёныя дзятлы, а аднойчы мы нават бачылі чорнага дзятла. Было цікава назіраць за гэтымі жвавымі птушачкамі, што бегалі па камлях дрэваў уніз галавой. У траўні лес зьвінеў песьнямі салоўкаў, кувалі зязюлі, а ў цёплых лужынах плавалі круглявыя з доўгімі, падобныі да маленькай рукі хвастамі апалонікі. З зьвяроў былі нашыя заўсёдныя вавёркі, зайцы ды панадлівыя лісіцы, часам прыходзілі сарны.



*Якуб Колас і Янка Купала падчас наведаньня Віленскай Беларускай Гімназіі. Травень 1941 г.*

Бацька выкапаў студню, зрабіў зруб, вада была хоць і неглыбокая, але сьцюдзёная, чыстая, смачная. Найбольшай праблемай была дарога - даезд быў адзін, зімой дарогу засыпала сьнегам, да аўтобуснага прыпынку; калі аўтобусы ўжо зьявіліся, было далёка. Бліжэйшы прыпынак быў на Дольнай, цяпер ад яе застаўся адзін дом, а наўкол набудаваныя розныя прадпрыемствы.

Улетку 1940 г. Літва "далучылася" да Савецкага Саюзу — вось і скончылася незалежнасьць. Падзея гэтая адбылася неяк незаўважна, напачатку неадчувальна для насельніцтва. Вывазы людзей пачаліся пазьней.

Увосень, калі мы пайшлі ў гімназію, аказалася, што ў нас новы дырэктар: ўсімі шанаванага кс. Адама Станкевіча зьнялі, а на ягонае мейсца паставілі М. Анцукевіча. Зьмянілася вучыцелька літоўскай мовы, вучні атрымалі падручнікі й разнастайную мастацкую літаратуру з Савецкай Беларусі, аднак іншых пераменаў не было. Усе шкадавалі ксяндза Адама, як па-просту называлі яго вучні, выдатнага пэдагога, ведамага ў Заходняй Беларусі грамадзка-палітычнага й рэлігійнага дзеяча й вучонага. Як асоба быў ён глыбокі, надзвычай адукаваны й разам з тым талерантны, спагадлівы. Выкладаў Закон Божы для вучняў-каталікоў, а нейкі час і лаціну. Дзякуючы яму ў гімназіі панаваў дух рэлігійнай цярпімасьці, сярод вучняў былі праваслаўныя, каталікі, эвангелікі. І настаўнікі рэлігіі (праваслаўныя сьвятары часта мяняліся, эвангелікам нейкі час выкладаў Дыліс), і вучні ставіліся да вернікаў іншай канфэсіі з пашанай. Лекцыі Закону Божага ў кс. Адама былі цікавыя, мелі філязофскі характар, вучылі думаць... Закончыў ён сваё жыцьцё ў далёкай Сыбіры.

Пры новай савецка-літоўскай уладзе з культурных бел. установаў у Вільні засталіся нашая прагімназія й Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча, які па-ранейшаму знаходзіўся ў Базыльянскіх мурох. Пасьля арышту дырэктара музэю Антона Луцкевіча дырэктарам быў прызначаны Мар'ян Пецюкевіч, у музэі працавалі Пётра Сергіевіч і літоўскі мастацтвазнаўца Уладас Дрэма. Але музэй быў ужо не такі, як раней, не было шматлікіх экскурсіяў з Заходняй Беларусі, не было ранейшай цеснай сувязі з ВБГ, што месьцілася калісьці ў тых самых Базыльянскіх мурох. Музэй падлягаў цяпер Літоўскай Акадэміі Навукаў і тут не вялася амаль ніякая праца. Тымчасам пачала выходзіць "Віленская праўда", у якой працаваў нейкі час і мой бацька. Але, наогул, бел. грамадзка-культурніцкае жыцьцё ледзьве цеплілася.

Увёсну 1941 г. Вільню наведалі беларускія паэты Янка Купала й Якуб Колас. Яны не абмінулі й нашай прагімназіі. Але сустрэча нашая зь імі была нейкая ненатуральная, скаваная: з аднаго боку было вельмі цікава пабачыцца й пагутарыць з жывымі клясыкамі, з другога боку яны відавочна былі не такія, як у нашаніўскую пару. Перад намі былі далёка ўжо немаладыя людзі, нейкія сумныя й прыгнечаныя. Дый гутарка не атрымалася, нашыя клясыкі былі быццам скаваныя прысутнасьцю камісара асьветы Клімава й яшчэ некага зь ягонай сьвіты ці аховы.

Закончыўся навучальны год. Вучні паразьехаліся, хто куды. А мы й так жылі, як на курорце. Бабуня Міла гаспадарыла дома, бацькі на гародзе: пасадзілі бульбу, розную гароднiну, завялі курэй, казу. Каза Аза давала вельмі добрае малако. У лесе зьбіралі ягады. Аднак спакойнае жыцьцё хутка закончылася. 22 чэрвеня Нямеччына напала на Савецкі Саюз.

Галіна Войцік

# Трэба ахвяравацца, а не гуляць у палітычныя гульні

## Другая гутарка з Славамірам Адамовічам



*Ня так даўно вядомы беларускі паэт Славамір Адамовіч вярнуўся з заробкаў з Амэрыкі. Паўгады папрацаваўшы будаўніком у Нью Ёрку, ён зарабіў сабе на аднапакаёвую кватэру ў спальным раёне Менску. Але нашую гутарку зь ім мы пачалі зь іншага.*

- **Твой асабісты погляд на Беларусь перад прэзыдэнцкімі выбарамі?**

- Хочыцца вызначыць сябе самога ў гэтай сытуацыі, акрэсліцца. Атрымліваецца так, што, як не круці, выснова сумная. Я колькі гадоў быў аптымістам, і вершы адпаведныя пісаў, і дзейнічаў адпаведна. У выніку дайшлі мы да гэтых вось рэальных выбараў і аказалася, што страцілі сілы, энэргію, волю. Стаім і думаем, як-бы гэта нешта такое зрабілася, каб нешта перамянілася, раптам нехта возьме й адхіліць ад улады гэтую абрыдлую ўсім пэрсаналію. Надзея на цуд.

- **І што далей?**

- Адхілім пэрсаналію, і паўстане праблема: як падняць Беларусь, даць ёй жыцьцё, дзе браць новых людзей, якіх можна будзе паставіць на мейсца старой каманды?

- **Што рэальна адбываецца ў палітычным жыцьці на Бацькаўшчыне?**

- Канчаецца красавік, а рэальнай палітычнай працы партыяў, апазыцыі ў цэлым няма. Каманды назіральнікаў, усё, што звязанае з тэхналёгіяй выбараў, - наўрад ці гэта дасьць станоўчыя вынікі. Не мяняецца, не ствараецца тэхналёгія, механізмы зьмены атмасфэры, якая ахоплівала-б кожнага грамадзяніна ў нашай краіне.

- **А чаму так здарылася, што напярэдадні такой важнай падзеі, як прэзыдэнцкія выбары, адбыўся гэткі цэйтнот?**

- У мяне знайшлося параўнаньне, што "апазыцыя перайграла самую сябе". Здараецца, што настолькі пачынаеш гуляць паводле пэўных правілаў, так уваходзіш у сваю ролю, у палітычныя выкрутасы, што забываеш пра тое, што нават і ў палітыцы ёсьць душа. Трэба ахвяравацца, а не гуляць у палітычныя гульні, маўляў, я ўсё пралічыў, пералічыў, няма тут матар'яльнай карысьці, і займацца гэтым ня варта. Не засталося цяпер у нас людзей, якія рабілі беларускую палітыку з душой, а хто застаўся, той ускрай стомлены.

- **А можа папросту на зьмену палітыкам-рамантыкам прыйшлі палітыкі-прагматыкі?**

- Прагматызм, безумоўна, рэч добрая. Але ўсё, што робіцца з душою, застаецца і знаходзіць водгук у сэрцах простых суграмадзянаў і застаецца ў гісторыі.

- **А калі ты адчуў, што ў настроях апазыцыі адбыўся пералом?**

- Яшчэ восеньню, калі нашыя журналістыя загаварылі: "Ня трэба пэсымізму!" Кіруючы рэжым у Беларусі напрацягу 10 гадоў рабіў усё на збыдленьне, дэмаралізацыю, дэнацыяналізацыю. Народ наш вельмі стомлены. Яшчэ адна прычына пэсымізму - гэта адсутнасьць сапраўднага ядра, вакол якога людзям хацелася-б згуртавацца, працаваць, круціцца. Людзей не паддурыш, маўляў, давайце працаваць кожны на сваім мейсцы. Патрэбныя лідары, ядро, як у пчаліным раі.

- **Але-ж за дзесяць апошніх гадоў было й шмат што зробленае...**

- Безумоўна, Беларусь за 10-гадовы адрэзак часу прайшла шлях, які іншыя краіны праходзілі за сто гадоў: ад падпольных культурнага напрамку таварыстваў да палітычных партыяў. Але партыі створаныя, а сярод іх пакуль што няма ніводнай паўнавартаснай, якая-б цалкам засяродзілася ва ўсю гэтую грамаду задачаў у справе адбудовы нацыянальнай дзяржавы. Хто гэта? Фронт? Нездарма ён раскалоўся, бо адыйграў сваю гістарычную ролю, і яму трэба было думаць над стварэньнем больш-менш акрэсьленай праграмы. Няма пакуль што ў нас у краіне такой партыі, якая-б узяла ў свае гаспадарскія рукі краіну, наладзіла-б ейную эканоміку, культуру, вырашыла нацыянальныя праблемы, — у мушчынскія здаровыя рукі.

- **Аднак, што мы ўсё пра Беларусь... Ты-ж ня так даўно вярнуўся з Амэрыкі. Як там?**

- Калі-б мне было дадзена пражыць некалькі жыцьцяў і ў адным зь іх я апынуўся-б у Амэрыцы, дык мне здаецца, што я ў тамтэйшым жыцьці прыжыўся-б: зарабляй грошы або лепш разьвівай свой бізнэс — і будзь задаволены. (Зрэшты, маё паўгадавое прабыцьцё там паказала, што я з такім ладам жыцьця справіўся-б). Амэрыка, сапраўды, ёсьць краіна самых шырокіх магчымасьцяў. Той, хто здаровы, энэргічны ды ўпарты, там будзе жыць добра. Зь іншага боку, дзіўна, але ідэалягічныя клішэ, накшталт "Краіна жоўтага д'ябла", якое насаджалася нам пра Амэрыку пры Саветах, адпавядае рэчаіснасьці. Нью Ёрк у літэральным сэнсе — горад золата. Вітрыны, крамкі, заводзікі. Золата там чалавек ня проста купляе й хавае, а носіць яго на сабе. Гэта кідаецца ў вочы. Адпавядае рэчаіснасьці й савецкае клішэ "Каменныя джунглі". Асабліва цэнтральная частка Нью Ёрку Матхэтэн. Разам з тым гэтыя "джунглі" даюць жыцьцё мільёнам людзей.

- **Колькі беларусаў у Нью Ёрку?**

- Колькасна беларусы там на трэйцім мейсцы сярод славянаў, пасьля ўкраінцаў і палякаў.

- **Што яшчэ характэрна для Нью Ёрку?**

- Побач з незвычайнай энэргіяй амэрыканцам уласьцівае пачуцьцё надзвычайнай роспачы, калі яны атрымліваюць нейкае фіяска, трапляюць у нейкую жыцьцёвую нявыкрутку. Тады яны почасту канчаюць жыцьцё самагубствам, найчасьцей, скочыць з парэнчаў масту ў Гудзон. Кожнага дня даводзілася чуць і чытаць пра гэта з фатаздымкамі небаракаў — характэрная карціна для Нью Ёрку. Дзівіць толькі, як у самагубцаў-ньюёркцаў стае моцы залазіць на тыя высокія парэнчы.

- **Чым яшчэ розьніцца Амэрыка ад Беларусі?**

- Адрозьніваецца, напрыклад, татальнай адсутнасьцю чорнага хлеба. І для мяне гэтае было ня дробязью. Набыць чорны хлеб я мог толькі ў жыдоўскіх і польскіх кварталах. Але там таксама несапраўдны чорны хлеб, бо зусім іншая тэхналёгія выпечкі — за суткі ён ня тое што чарсьцее, а рассыпаецца.

- **А як там людзі?**

- Ну, зьнешне яны ў адрозьненьні ад нас дасягаюць фантастычных памераў, і ў вышыню, і ў шырыню. Для фізычнай працы іхныя памеры, пэўна, нармальныя. Дзеля таго, як яны "ўкалваюць", трэба быць фізычна моцным. Але разам з тым гэта эўрапэйца-навічка раздражняе. Можа быць у гэтым ня толькі адсутнасьць натуральнага чорнага хлеба, а яшчэ й расавае зьмяшэньне, бо мурыны самі сабой здаровыя. Зрэшты, я не пра тое, што гэта добра ці дрэнна, няхай будуць такімі, як ёсьць, абы на здароўе. Што датычыцца зьнешняй прыгажосьці, дык найпрыгажэйшыя там дзяўчыны-мурынкі, і з твару, і постацыю. У зьнешнасьці белага жыхарства Нью Ёрку шмат ірляндзкага: выцягнутыя ("конскія") твары. Калі мы такіх бачым у Менску, адразу разумеем, што яны нетутэйшыя.

- **Што яшчэ ўразіла?**

- Вавёркі. Яны ў Нью Ёрку сівыя, як мышы — зьліліся з шэрым гарадзкім асяродзьдзем.

- **Іх там шмат?**

- Шмат, па ўсім горадзе, і ў сьмецьці корпаюцца, як кошкі ці пацукі.

- **А як сам горад, архітэктура?**

- Я зрабіў такое назіраньне, што калі гэты агромністы мегаполіс пакінуць без нагляду будаўнікоў на год, дык баюся, што ён ператворыцца ня толькі ў "каменныя джунглі", а проста ў джунглі, бо гарады, каторыя праз доўгі час ня ведалі, што такое вайна ў сучасным разуменьні, ня ведалі бамбёжкаў, катастрафічных разбурэньняў, — увесь час трэба аднаўляць. Я працаваў на аднаўленьні аднаго з тысячаў ньюёрскіх будынкаў. Некаторыя гмахі зносяцца зусім.

- **А што ты канкрэтна аднаўляў?**

- Пяціпавярховую, пачатку XX ст. стайню. Усё ў сярэдзіне вычысьцілі, толькі адныя сьцены пакінулі... Хачу тут расказаць пра рамонт амэрыканскіх мастоў. Калі быкі-апоры адслужваюць свой тэрмін, іх рамантуюць. І вось з гэтага бэтону дастаюць натуральныя трупы: трупы тых будаўнікоў, што ўзводзілі масты 150-100 гадоў таму назад. І ў Амэрыцы тады людзі гінулі як мухі. Гэта не таямніца, там пра гэта пішуць.

- **Але-ж на тым будаўніцтве, напэўна, можна было зарабіць грошай, ня тое, што ў СССР на прымусовай працы.**

- Безумоўна, шмат індзейцаў, кажуць, працавала на будаўніцтве дарогаў і мастоў, бо мурынаў не загнаць было. Было там, думаю, шмат ірляндцаў, і нашых, беларусаў... А так Амэрыка вельмі багатая, усё зіхаціць, трэйлеры блішчаць нікелем, выдатныя дарогі, прарэзаныя ў скалах - такое адчуваньне, што ты як нож лезеш праз масла. Дарогі там адгароджаны ад жылых кварталаў глухімі мурамі, шуму-грукату не чуваць. Пад ціскам грамадзкасьці мэрыя або ўзводзіць такія муры, або плоціць жыхарам, што жывуць побліз з аўтастрадамі, кампэнсацыю.

- **А як там жывецца нашай беларускай эміграцыі? Як паставіліся да цябе асабіста?**

- Я найлепшых ураженьняў, і проста пачалавечы, і зважаючы на нашыя беларускія праблемы. Мне старая нашая эміграцыя проста як чалавеку дапамагла там знаходзіцца, існаваць. Асабіста ўдзячны Раману Орсу, спадарству Бартулёў, Антону Шукелойцю, з кім найбольш кантактаваў. Тыя купкі беларусаў, што там ёсьць, зрабілі для мяне ўсё, што змаглі.

- **Чаму купкі?**

- Таму што 50 гадоў таму іх было значна больш... Я думаю, што мы павінныя быць удзячныя ім за зробленае, і яны ўсё яшчэ робяць. І вымагаць ад іх нешта звыш таго (нібыта яны нешта нам павінныя ў Беларусі, або павінныя вярнуцца дамоў) - гэта сьмешна. Да таго-ж Беларусь гэта не Літва, куды, сапраўды, трохі амэрыканскіх літоўцаў вярнулася. Трэба берагчы тых цудоўных людзей, якія ёсьць у нас у Амэрыцы.

- **А што да новай эміграцыі?**

- Старыя беларусы адыходзяць, і цяпер праблема, ці паўстануць новыя, ці будзе каму пераняць хацяб тое, што ўжо напрацаванае старэйшымі. Ёсьць там і навука, і мастацтва, і фундацыі. Калі ня будзе пераемнасьці, усё гэтае можа згубіцца. Напрыклад, пэройдзе да палякаў ці іншых мяйсцовых амэрыканцаў.

- **А як табе нашая Вільня? Ты часта сюды прыяжджаеш і бачыш значна больш, чым наведнікі на адзін дзень?**

- Я сваю драбнічку ў вяртаньні Вільні Беларусі зрабіў: тут у мяне нарадзілася дачка. Зараз яна грамадзянка Віленскага Краю, і, дасьць Бог, яна будзе адпаведна выхаваная, як беларуска. Калі мы ні на чога іншага ня здатныя або ня можам зрабіць з аб'ектызных прычынаў, дык я заклікаў-бы беларусаў проста нараджацца, вытвараць больш інтэнсыўна да сябе падобных.

*Гутарыў* А. М.






**"Станіслаў Станкевіч"**
так называецца новая публікатка выдавецтва "Рунь", якая распавядае пра жыцьцёвы шлях выдатнага беларускага літаразнаўцы й філёляга, буйнога грамадзкага дзеяча Заходняй Беларусі й паваеннай эміграцыі, шматгадовага рэдактара газэты "Беларус".

А. М.

**Радыяцыйныя мапы Беларусі**
ўжо даўно састарэлі й не адпавядаюць рэальнаму стану рэчаў. Пра гэта паведаміў газэце "Экалягічны весьнік" навукоўца Альбэрт Багдасараў. Упершыню мапы радыяцыйнай сытуацыі на тэрыторыі Беларусі былі надрукаваныя ў газэтах у 1991 г. На гэтых мапах была пазначаная шчыльнасьць забруджаньня мяйсцовасьці цэзіем-137, стронцыем-90 і плутоніем-239 на студзень 1991 году. Пасьля выхаду мапаў у 1991 годзе й продажу іх насельніцтву працы ў галіне ўдакладненьня межаў забруджаньня працягваліся. За 10 гадоў, як сьцьвярджае Альбэрт Багдасараў, у выніку кліматычных й антрапагенных ўплыву на прыроду радыяцыйнае становішча значна зьмянілася. Плямы распаўзаюцца штогод прыкладна на 5 км па ўсіх кірунках. Старыя мапы ўжо не адлюстроўваюць рэальны стан рэчаў. Пры гэтым нічога ня робіцца, каб стварыць новыя мапы ды праінфармаваць насельніцтва пра небясьпеку для іх жыцьця і здароўя.

**26 чэрвеня**
ў раённым цэнтры Менскай вобласьці Чэрвень (былы Ігумен) адбудуцца жальбіны на месцы, на якім 60 гадоў таму савецкія энкаведысты перад тым, як уцячы ад наступаючых нямецкіх войскаў, расстралялі былых вязьняў менскіх турмаў. Сярод тых, хто скончыў там свой жыцьцёвы шлях, ня толькі беларускія палітвязьні, а таксама й грамадзяне Польшчы й Літвы, арыштаваныя й прывезеныя з родных месцаў у Беларусь чырвонымі "вызваліцелямі". Дагэтуль дакладна невядома, колькі людзей пахавана ў Чэрвеньскім лесе. Вядома толькі, што зь Менску пехатой гналі больш за шэсьць тысячаў "ворагаў народу", частку зь якіх зьнішчылі па дарозе. А жывых сьведкаў трагедыі засталося... Пяць чалавек.

У жалобных мерапрыемствах, падчас якіх будзе ўсталяваная новая мэмарыяльная дошка, маркуецца ўдзел прадстаўнікоў Польшчы й Літвы.

Яўген Ліцьвін




Здымак Генадзя Жынкова

***Валянціна Аксак*** *(нар. 1953) свой першы вершаваны зборнічак "Цьвінтар" надрукавала досыць позна, у 1992 г. Другі зборнічак паэткі "Капліца" выйшаў у 1994-ым. Трэці — "Антычны дождж" — у 1999-ым. Вершы ў зборнічках трапляюцца адметныя, а самі зборнічкі вельмі розьняцца адзін ад аднаго як духам, так і стылем пісьма.*
А. М.

## НЕКАХАНА

Збавіцелькай ноч наплывае,
Ахутвае сплумлены горад,
І першая зорка малая
Паглядвае госьцяю гордай.

Штодня ў тваіх курчуся словах,
Балючых і хвостких, як пуга
Разьюшаных хортніцкіх ловаў,
Што ў цела ўразаецца туга.

А ноччу ты гнеў свой на літасьць
Зьмяняеш, загойваеш раны,
Каб заўтра, смакуючы гідкасьць,
Гайнёю стравіць некахану.

Скарылася-б гэткае долі,
Ды сьведка ў вакно паглядае —
Сьмяецца з ахвотнай няволі
Вячорная зорка малая.

## КАЛЯДНІК

У царстве здрадлівых марозаў
Танюткім прадзівам па шкле -
Карункавых мэтамарфозаў
Хітраспляценьні на сьвятле.

І толькі квет на падваконьні —
У мёртвай шыбіне прасьвет,
Ды ў залюстэркавым сутоньні
Жыцьця зазімленага сьлед.

## БАГАЧ

Дажынкі пахнуць дажджамі
і рошчынай сьвежаю дзежы.
За жніўнем сваты прыяжджалі —
гарбуз пакаціўся па сьцежцы.

А бохан круты і крохкі —
раскроіць нельга на чвэрці.
Плывуць па шчоках кроплі.
Брудны рукаў — ня ўцерці.

## АСТЫЛАЕ ГНЯЗДО

Дождж змывае золата зь бярэзін,
Вецер рве рубіны з арабін,
Мэталёвы храбусткі пярэдзім
Лье на крохкі восеньскі бурштын.

Нізка гольле зьвісла зь вербалозаў,
Сьлёзы-льдзінкі скідвае на дол,
І люляе ў мроіве марозным
Так даўно астылае гняздо.

***

О як холадна жыць, Божа мілы!
Стынуць вусны, ляднее душа.
Дай мне сілы, мой Бог, дай мне сілы!
Хай загіну пазьней, а сьпярша

Хоць крыхотку цяпла, хоць крапліцу,
Хоць іскрынку маленькую дай!
Буду [illegible]ечна за гэта маліцца,
Буду [illegible]наць ад сябе той адчай,

Што с[illegible]віў мяне даўняй вясною,
Патуш[illegible]ў несканчоны радок,
Выбі[illegible]розуму нітак аснову,
Збэр[illegible] думак вясёлкавы ўток.

І ня [illegible]чэцца мая выбіранка —
Пер[illegible]крэсьліў карункі мароз.
Заі[illegible]дзелі пахмурыя ранкі
Пер[illegible]лівамі выстылых рос.

Божа мілы, ня дай мне скарыцца
Халадэчы бясколерных сноў,
Памажы, навучы, як пазбыцца
Скамянелых пачуцьцяў і слоў!

## ШЧАДРЭЦ

Каляндар на стале
і васкоўка.
Зь Нямеччыны родам,
кандэлябра ня лье
сьлёзы з хваляў глінянага споду.
Дуйка вэлюмы ўе
і на шыбы сьвяточна чапляе.
На засіненым тле
неба ўзорнага месяц гуляе.
Зазірае ў вакно
да мяне і да іншых самотных,
зачапляючы кнот,
сьвечкі.
Сэрца, ўспыхні само ты…

Здымак Генадзя Жынкова

* * *

Сьцішаны шоргат пажухлай лістоты.
Мятлік няўсьцешны ляціць на вагонь.
Шорсткая шэрань замест пазалоты
Фразай шурпатай забэрсвае скронь.

Зброддівы вецер гуляе па полі -
Спраў у бары ў яго болей няма…
Значыць бяз сьведкаў мы тут пасваволім —
Покрыва ладзіць нам Лада сама.

* * *

А мне хацелася заўсёды ўласнай хаты —
Такі вось аднасобны інтарэс.
І каб ураньні церлася трава аб пяты,
А ўвечары ў вакно заглядваў бэз.

Бацькоўская? У ёй я — толькі госьця,
Хоць і радзілася за печкай на палку.
А час жаданьне даўняе ня спросьціў…
Вось толькі нэрвы церпяліва склаў у куль.

Такім суквецьцем спрамянёных мрояў
Жыве душа пра собскае жытло…
Няўжо-ж мяне так Бог магутны скроіў,
Што роднае набуду толькі ў дол?

## ДЫФІРАМБ

Калі я гляджу на цябе, Дыёніс,
такога ў мяне закаханага,
я думаю:
юны, пасланы ты мне пакараньнем
за лона, раскрытае некалі старцу.

## Шаноўныя чытачы!

*Шмат у каго з вас ужо скончылася падпіска на нашую газэту, некаторыя й зусім не падпісаліся. Нашым чытачам зь Беларусі й краінаў СНД, каторыя з прычыны цяжкога матар'яльнага існаваньня ня маюць сродкаў на падпіску, мы й надалей будзем высылаць газэту бясплатна. (Адна толькі просьба, каб вы часьцей пісалі нам, ці хаця-б паведамілі, ці даходзіць да вас газэта). А вось да астатніх нашых падпішчыкаў вялікая просьба: падпішыцеся! Падтрымайце адзіную беларускую газэту ў нашай старажытнай сталіцы Вільні! Умовы падпіскі ранейшыя:*

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:
*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no. 10 000 196 490*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.

Адрас для допісаў: ***«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania***

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| К. Акула з Канады | USD 30 |
| М. Клакоцкі з Амэрыкі | USD 50 |
| М. Пецюкевіч зь Італіі | USD 25 |
| С. Шабовіч | USD 50 |
| М. Сьнежка з Амэрыкі | USD 30 |
| У. Русак з Аўстраліі | AUD 50 |
| З. і В. Кіпелі з Амэрыкі | USD 100 |
| М. і Т. Белямукі з Амэрыкі | USD 30 |
| Kon Worth з Амэрыкі | USD 20 |
| М. Навумовіч з Францыі | FRF 100 |
| І. Ільчук з Амэрыкі | USD 30 |

**Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў**

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі»**
адрас рэдакцыі
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania
тэлефон, факс:(+370 2) 42 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня UAB "Dumsa", Žirmunų g. 68, Vilnius
наклад **1000**
ISNN 1392-7671